PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 53 (2068) ГОД XL БЕЛАСТОК 31 СНЕЖНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*У Новым 1996 годзе*
*Чытачам „Нівы" жадаем шмат шчасця, здароўя*
*і здзяйснення ўсяго таго,*
*што з'яўляецца аб'ектам Вашых мараў.*
*Рэдакцыя*

## Беларусы выказаліся за дэмакратыю

10 снежня вырашыўся лёс беларускай дэмакратыі. Пасля некалькіх спробаў выбару новага, упершыню дэмакратычнага парламента, удалося ў канцы назбіраць адпаведную колькасць дэпутатаў і такім чынам стварыць орган заканадаўчай улады ў рэспубліцы.

Дэмакратыя ў Беларусі нараджаецца ў цяжкіх болях. Тут, як відаць гэта цяпер, саветызацыя пранікла ў глыбіню душы кожнага чалавека. Сумленнем савецкага беларуса не скалыхнулі нават весткі пра Курапаты, мільёны памардаваных для здзяйснення шалёнай ідэалогіі. Псіхічнае зняволенне было так вялікае, што людзі не заўважылі нават кашмару афганскай вайны, дзе маладыя хлопцы гінулі, змагаючыся за імперыяльныя мары Брэжнева і яму падобных старэчаў. У Расіі тым часам дзесяткі тысяч пратэстуючых дысідэнтаў запоўнілі турмы і псіхіятрычныя шпіталі. Большасці беларусаў запамяталася з таго часу, што хлеб, каўбаса, гарэлка, камунальныя паслугі, транспат былі вельмі танныя, а штодзённае жыццё — незвычайна простае. Улада пра ўсё думала, дакладна таксама ўсё акрэсліла: што можна, а чаго нельга рабіць. Усё і ўсім было зразумелае.

У 1990 г. сотні тысяч людзей на вуліцах Вільні, Масквы, Кіева дамагаліся свабоды і дэмакратыі. У Мінску было ціха і спакойна. Апазіцыя Беларускага народнага фронту ўспрымалася грамадствам як статак дзівакоў, авантурыстаў. Так, дарэчы, прадстаўлялі іх ва ўрадавых сродках масавай інфармацыі. Нават Вярхоўны Савет, які тады выбралі не нашмат розніўся ад савецкіх рэспубліканскіх парламентаў, якія былі толькі вонкавым упрыгожаннем камуністычнай дыктатуры. Неўзабаве гэты Вярхоўны Савет стаў сапраўдным заканадаўчым органам фармальна суверэннай Беларусі. Незалежнасць прыйшла нечакана, можна сказаць выпадкова, дзякуючы самадзеючаму развалу савецкай імперыі. Беларусы атрымалі яе дарма, без змагання і ахвяраў. Можа таму большасць не шанавала гэтага падарунка гісторыі. З ліку некалькіх кандыдатаў першым прэзідэнтам выбралі чалавека, які найбольш рашуча заяўляў, што верне савецкі парадак і ліквідуе незалежнасць дзяржавы, якою меў кіраваць.

Прэзідэнт слова стрымаў. Сапраўды зрабіў усё, каб так яно і сталася. Найгоршае прытым было вяртанне да нядобрых еўрапейскіх традыцый міжваеннага перыяду, калі дэмакратычна абраны орган улады, зараз пасля выбару, пачынаў знішчаць тую ж дэмакратыю, якая дала яму ўладу. Самазнішчальныя працэсы, якія пусціў у ход прэзідэнт, не здзейсніліся, пакуль што, толькі таму, што ніводная суседняя краіна, а асабліва Расія, нават маральна не падтрымалі беларускае ўлады. Наадварот, расейскія сродкі масавай інфармацыі, а асабліва прыватныя, паказалі тое, што дзеялася ў Беларусі як нешта трагікамічнае, гратэскавае, неверагоднае і небяспечнае. Там дзяр-

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Лукашенко считает, что у Гитлера есть чему поучиться.*
*Свабода, н-р 54*

* * *

*Лукашэнка гэта тыповае стварэньне позьняга бальшавізму і цяпер дарваўшыся да дыктатуры шукае сабе падтрымкі — аналогіі ў гісторыі. Гітлер у гэтым сэнсе найлепшы ўзор для пераймання, мабыць, болей прывабны, чым нядаўнія ідалы нашага прэзыдэнта — Дзяржыньскі, Андропаў, Машэраў, якіх ён, як адчувае, ужо перарос. Цяпер ён інстынктыўна раўняецца на Гітлера. Беларускі народ, ведама, прагыне і гэта, як ён прывык глытаць шмат што іншае. Але як да гэтага паставіцца Масква? Лукашэнкаўскія эскапады, здаецца, ужо пачынаюць задаваць галаўны боль расейцам, — сказаў Васіль Быкаў.*
*Свабода, н-р 55*

* * *

*Gdyby nauczyciel zatrudnił się na etacie dozorcy, zarabiałby więcej. Nauczyciel z 30-letnim stażem zarabia 714 zł., woźny 720 zł, pomoc kuchenna 765 zł, mistrz na warsztatach szkolnych 982 zł.*
*Gazeta Wyborcza, nr 285*

Ужо даўно разумныя людзі заўважылі, што кухарка можа кіраваць дзяржавай, але пра настаўнікаў не ўспомнілі.

* * *

*Беларусь сёння набыла ў свеце шырокую вядомасць. На вялікі жаль, не лепшага кшталту, а то і скандальную. А ўсё гэтае з прычыны інтэрв'ю прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі нямецкай газеце „Хандэльсблат", у якім ён усхваляў нацыскага фюрэра Адольфа Гітлера.*
*Літаратура і мастацтва, н-р 48*

Ёсць жа больш прыстойныя ўзоры, якімі мог бы пакарыстацца Аляксандр Рыгоравіч. Амін, Бакаса — афрыканскія імператары маглі б быць лепшымі прыкладамі, чым Гітлер. „Управляли" яны падобнымі дзяржавамі і таксама няшчасным людам. Навошта палохаць сваіх грамадзян і ўвесь свет славутым Адольфам!?

* * *

*Калі селяніна ў царскай дзяржаве прадавалі ў рабства за даўгі, дык калгаснік мог стаць зэкам-робатам толькі за адно неасцярожнае слова. Закон калгаса: „Хлеб — Радзіме" прадугледжваў нешта накшталт абавязкова-рэгулярнага ахвярапрынашэння. Калгаснік карміў увесь апарат жрацоў парткамуністычнага культу, аж да самога жывога „бога", які ні ў чым сабе не адмаўляў. Бяздоннае чэрава мільёнагорлага монстра было на практыцы славутымі „засекамі (свірнамі) Радзімы".*
*Наша слова, н-р 47*

* * *

*Z ubolewaniem stwierdzam, że podzieliliście Polskę, przyjmując żydowsko-komunistyczną procedurę prowadzenia państwa! (...) Obłudą, kłamstwem, frymarczeniem sprawami Polski sprawiliście, że obudziliśmy się z ręką w nocniku, trzymając w niej gówno!..*, — сказаў ксёндз Генрык Янкоўскі.
*Polityka, nr 49*

Што тут нарабілася: сатырыкі хочуць стаць прэзідэнтамі, ксяндзы — сатырыкамі.

* * *

*Telewizja dążąc do zwiększenia oglądalności stara się pokazywać wydarzenia spektakularne. Nie ukazuje więc świata, w którym samoloty i autobusy docierają do celu, a rodzice opiekują się dziećmi, ale to co od normalności odbiega — samolot rozbija się, autobus wpada w przepaść, ojciec gwałci dziecko, kaczor Donald dostaje w mordę. W „Wieczorynce" jest więcej destrukcji niż w „Wiadomościach". A dzieci chłoną takie wzory.*
*Gazeta Wyborcza, nr 288*

Эх, дзе падзеўся чэшскі разбойнік Румцайс са сваімі Ганкай і Цыпіскам.

* * *

*Pijany nastolat drzemał sobie na jezdni. Przejechał go również pijany kierowca.*
*Gazeta Współczesna, nr 241*

Моладзі пасля цяжкай навукі нават няма дзе спакойна адпачыць.

* * *

*16 stycznia 1993 r. Muzułmanie wymordowali swoich sąsiadów z wioski Skelani. Zabili 62 osoby, ranili 68. Nie oszczędzono nawet niemowląt. Nikt nie stanął przed sądem.*
*Gazeta Wyborcza, nr 289*

Газета адкрыла цяпер, што мардавалі не толькі сербы, але таксама і сербаў.

* * *

*Соль земли белорусской и предки Маркса.*
*Рэспубліка, н-р 248*

Савецкія вучоныя ў пошуках сваіх каранёў дайшлі да адкрыцця, што продкі Маркса ў XV стагоддзі жылі на Беларусі.

* * *

*Rządzący Polską Ludową starali się demonstrować w każdej możliwej sytuacji swoją polskość, z drugiej zaś byli przecież wierni ojczyźnie międzynarodowego proletariatu. Peerelowscy przywódcy chętnie zakładali narodowy kostium dla celów politycznych. W sytuacjach kryzysowych odwoływali się do polskiego nacjonalizmu, a nie sentencji z Marksa i Engelsa. Postulat jedności narodowej, często wysuwany przez komunistów został zapożyczony z ideologii nacjonalistycznej. Walka i obrona zjednoczonego narodu stanowiła imperatyw każdego członka narodowej wspólnoty.*
*Polityka, nr 48*

* * *

*SLD nie jest lewicą. To stara szkoła PZPR. Oni są równocześnie lewicowi, centrowi, ludowi i liberalni. Nie zdziwiłbym się, gdyby pokazali oblicze narodowe*, — сказаў былы віцэ-міністр абароны Браніслаў Камароўскі.
*Gazeta Wyborcza, nr 280*

* * *

*Jak poseł Plewa Egipt reklamował*, — піша
*Gazeta Wyborcza (nr 282)*

* * *

*Sokólska policja otrzymała sygnał, że wzdłuż kolejki tirów w Kuźnicy Białostockiej jeździł busem cudzoziemiec zza wschodniej granicy, w którym siedziały chętne do „pracy" rodaczki. Zatrzymywał się obok kabin ciężarówek, „nużen sex?" — pytał. Zostawiał dziewczynę i odjeżdżał. Funkcjonariusze policji nie sprawdzali prawdziwości sygnału w kabinach ciężarówek.*
*Gazeta Współczesna, nr 237*

Паліцыі таксама „нужен секс".

# З мінулага тыдня

**Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій** стаў адным з лаўрэатаў узнагароды імя святога брата Альберта (Адама Хмялёўскага), якая ўжо дванаццаты раз уручалася ў Варшаве. Мітрапаліт Васілій атрымаў узнагароду (медаль з выявай святога і сімвалічнае 500 зл.) у галіне экуменічнай дзейнасці — за працу і асабісты ўклад у справу аб'яднання хрысціян. Адным з лаўрэатаў у галіне культуры і сакральнага мастацтва стаў таксама беластоцкі фатограф **Марэк Далецкі.** Узнагарода была яму прысвоена за рэалізацыю альбома аб Святой Гары Грабарцы і за шматгадовую дакументацыю рэлігійна-культурнага жыцця нацыянальных меншасцей у Польшчы. Узнагароды імя брата Альберта прысвойваюцца за асаблівыя дасягненні ў галіне культуры і сакральнага мастацтва ды ў грамадскай і экуменічнай дзейнасці.

**Мітрапаліт Васілій** у дзень вялікамучаніцы Варвары наведаў Свята-Варварынскую царкву ў **Мілейчыцах**, дзе ўзначаліў Святую Літургію. Найбольш заслужаных прыхаджан першаіерарх узнагародзіў медалямі св. Марыі Магдаліны і ганаровымі граматамі.

**Улады горада Львова** адхілілі польскую канцэпцыю рэстаўрацыі Могільніка Арлянат. Польскі бок хацеў, каб могільнік атрымаў даваенны выгляд. Гарадская ўлады Львова заявілі, што на тэрыторыі Украіны ўсе памятныя і інфармацыйныя надпісы павінны быць выкананы на ўкраінскай мове. У выніку перамоў была дасягнута дамоўленасць, што магілам будзе вернуты першапачатковы выгляд. На могільніку пакояцца астанкі Арлянят — абаронцаў горада з перыяду польска-ўкраінскай вайны 1919 г..

**У Супраслі** адзначалася 300-годдзе заснавання уніяцкай друкарні ордэна базыльянаў. З гэтай нагоды быў устаноўлены памятны медаль, якім Таварыства прыяцеляў Супрасля ўзнагароджвае заслужаных для гэтага горада дзеячаў. А ў Палацы абатаў да 15 студзеня 1996 г. можна паглядзець выставу супрасльскіх старадрукаў.

**Ян Смык, Анна Багдановіч і Станіслаў Пазнанскі** — журналісты Беластоцкага радыё — сталі лаўрэатамі Агульнапольскага конкурсу радыёрэпартажу „Польшча і свет". Першае месца заваяваў Ян Смык за рэпатраж „Ён — лэмко".

**На пагранічным пераходзе Полаўцы—Пяшчатка** беларускі бок увёў нечакана г.зв. паркінгавую аплату ў памеры 30 тыс. руб. (3 дол.) ад машыны. Рашэнне аб аплаце прыняў Камянецкі раённы выканаўчы камітэт, не інфармуючы аб матывах такой пастановы. Раней на пагранпераходзе Кузніца—Брузгі беларускія ўлады ўвялі 25-доларавую экалагічную аплату, якую абавязаны плаціць шафёры грузавікоў.

**У Баброўніках** адноўлена дзейнасць пагранічная перахода на шляху Баброўнікі—Берастувіца. Пагранпераход быў закрыты ў ліпені 1995 г., калі мост на гранічнай рацэ Свіслачы пастаўлены быў на рамонт. Цяпер рамонтныя работы даведзены да такога стану, што магчыма было ўзнавіць рух аўтамабіляў. Рамонт завершыцца ў 1996 годзе.

**У Генюшах** каля Саколкі вялікі грузавік наехаў на слізкай шашы на легкавую аўтамашыну, на якой ехалі чацвёра жыхароў Гродзенскай вобласці. Дзве жанчыны і мужчына загінулі на месцы. Астатні мужчына памёр у бальніцы ў Саколцы. Прычынай трагедыі была неасцярожная язда 21-гадовага шафёра грузавіка.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Каляндар на 1996 год.

> Бежанская Каляда — рэпартаж Міколы Ваўранюка.

> Псіхалогія злачынца — рэпартаж Аляксандра Максімюка.

> Як Андрэй Гаўрылюк стаў баварцам.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Партыйны склад парламента

Вядомы ўжо партыйны склад Вярхоўнага Савета XIII склікання. Ад партыі камуністаў выбраны 42 чалавекі, што складае 21,2% ад усёй колькасці дэпутатаў. На другім месцы апынуліся прадстаўнікі Аграрнай партыі. Яе ў парламенце будуць прадстаўляць 33 чалавекі (16,7%). Ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі выбрана 9 чалавек, ад Партыі народнай згоды — 8. Беларускі народны фронт не будзе прадстаўляць ні адзін з кандыдатаў. Беспартыйных у новым парламенце — 95 чалавек, што складае каля 48% ад агульнай колькасці дэпутатаў.

## Дыялог дзеля будучыні

У Менску адбылося пасяджэнне Хартыі „Дыялог дзеля будучыні", прысвечанае вынікам выбараў дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых саветаў. На ім падкрэслівалася, што Хартыя павінна працаваць і далей, таму што выбарчы працэс яшчэ не завяршыўся. На гэтым пасяджэнні Станіслаў Багданкевіч, як старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, падпісаў Хартыю „Дыялог дзеля будучыні".

## Па Менску гуляе грып

Эпідэмія грыпу, што пачалася ў сталіцы, унесла свае карэктывы ў школьны расклад. Галоўны санітарны ўрач горада прыняў рашэнне закрыць з 14 снежня на карантын усе школы Менска. Гэтыя меры выкліканы рэзкім пагаршэннем эпідэміялагічнай сітуацыі ў сталіцы. Усяго з пачатку эпідэміі ў Менску зарэгістравана звыш 75 тысяч пацыентаў ад інфекцыі, а ўзровень захворвання перавысіў сезонны паказчык больш чым у дзесяць разоў.

## Чарнобыльскі рэгістр

У Беларусі створаны дзяржаўны рэгістр на больш чым 220 тысяч ліквідатараў аварыі на Чарнобыльскай АЭС з ліку эвакуіраваных і адселеных з тыдцацікіламетровай зоны, а таксама грамадзян, якія засталіся жыць на тэрыторыях, што падлягаюць першачарговаму адсяленню. Па ўдакладненых даных на пачатак снежня да разраду забруджаных у Беларусі аднесена 23% тэрыторыі рэспублікі, на якой жывуць 1 841 000 грамадзян, 484 000 з якіх — дзеці. У адпаведнасці з гэтым Вярхоўны Савет і ўрад Беларусі прызналі ўсю тэрыторыю рэспублікі зонай экалагічнага бедства.

## Дзіцячы госпіс

Споўнілася гадавіна з дня заснавання Беларускага дзіцячага госпіса, створанага пры Рэспубліканскім анкагематалагічным цэнтры. Госпіс — гэта арганізацыя, якая бярэ пад сваю апеку сем'і, дзе ёсць безнадзейна хворыя дзеці. Сёння пры штаце 16 чалавек госпіс абслугоўвае 30 такіх сем'яў, аказвае матэрыяльную падтрымку і медыцынскую дапамогу перш за ўсё дома, праводзіць кансультацыі з сацыяльным псіхолагам, духоўнікам, выкарыстоўвае слоўную тэрапію. У Доме літаратара ў Менску адбылася вечарына, на якую былі запрошаны супрацоўнікі госпіса, валанцёры, спонсары, члены сем'яў смяротна хворых хлопчыкаў і дзяўчынак, усе, хто мае дачыненне да гуманнай і неабходнай справы.

## У гонар Галубка

З 8 па 10 снежня Баранавічы сталі тэатральнай сталіцай. У гэтыя дні праходзіў тут рэспубліканскі фестываль аматарскіх тэатраў. Сёлета быў ён прысвечаны ўшанаванню памяці аднаго з заснавальнікаў беларускага тэатра, пісьменніку, драматургу, рэжысёру, акцёру, першаму народнаму артысту рэспублікі Уладзіславу Галубку. Фестываль называўся „Гасціны ў Галубка". У ім прымалі ўдзел як вядомыя народныя тэатральныя калектывы з Рагачова, Пінска, Слуцка, так і маладыя з Наваполацка, Драгічына і іншых гарадоў рэспублікі, а таксама госці — артысты з Расеі, Украіны, Францыі. Першае месца журы присудзіла Пінскаму гарадскому тэатру-студыі „Дыяген", другое — народнаму тэатру Дома культуры ў Рагачове.

## Савецкія пікеты

Адмены белавежскіх пагадненняў аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў і аднаўлення Савецкага Саюза запатрабавалі маскоўскія камуністы, якія пікетавалі будынкі пасольстваў краін СНД у Маскве. Ля кожнай з дыпламатычных місій дзяржаў садружнасці сабраліся па 15—20 чалавек, дарэчы, за выключэннем пасольства Беларусі, дзе пікету не было. Удзельнікі акцыі трымалі плакаты: „Толькі ў адзінстве ўсіх народаў СССР вратаванне ад нацыянальнай катастрофы", „Белавежскай змове — не, абноўленаму Саюзу — так!"

## Вайна з семкамі

Па рашэнню Баранавіцкага гарвыканкама забаронены гандаль семкамі на вуліцах горада. Пайсці на такую непапулярную меру прымусіў уладу клопат аб чысціні горада. Безумоўна, гэта прынясе шкоду і без таго худым кашалькам старых, што зарабляюць такім чынам сабе толькі на харчаванне. Але, на жаль, іншага выйсця няма. Горад пачаў ператварацца ў сапраўдны сметнік, так як і іншыя буйныя гарады рэспублікі.

## ЯКІМ НАМ БУДЗЕ НОВЫ ГОД?

Зноў уладарна Гадок Новы
Пераступае наш парог.
Чым нас узрадаваць гатовы,
Якіх чакаем перамог?

Ці новы выбар прэзідэнта
Да шчасных аднясем падзей?
Ці нас не абдзніць дашчэнту,
Як гэта сталася раней?

Ці выбарчыя абяцанкі
Спаўняцца будуць у жыцці,
Ці толькі стануць як цацанкі
Для нашых бедненькіх хацін?

Калі прададзена ў асноўным
Краіны капітальны змест,
Ці нам не будзе фальшу поўным
Той прыватызацыйны жэст?

Тыя пасведчанні, што сёння
Нам прапануюць выкупляць,
Быццам у нашай абароне —
Пачнуць усіх узбагачаць?

Добра вядома, што змагацца
Трэба, як хочам багацець.
Ці хопіць у краіне працы
Усім, хто хоча працу мець?

Мноства ўсялякіх пажаданняў
Сёння складае наш народ.
Хай жа на нашыя пытанні
Адказ рыхтуе Новы Год!

**Віктар Швед**

## НОВЫ ГОД

Новы Год
Сардэчна вітаю,
Беларускі род
Шчыра праслаўляю.

Што нас чакае,
Не ведаем —
Адзін Бог знае
І за ім паследуем.

Роднай мовы
Трэба трымацца,
Вучыць дзяцей, унукаў
Вышэй падымацца.

Каб ляцелі словы
Са сваёй гаворкі,
Каб роднаю мовай
Поўніліся панадворкі.

Хай кожны прачнецца,
Хто дагэтуль спаў
І ў грудзі б'ецца —
Вінаваты; не знаў.

Вінаватым прызнаюся,
Але пачну працаваць
І да верных далучуся,
Каб праўду пазнаць.

З Новым Годам, грамадзяне
Хай дацэняць труд!
Гараджане і сяляне,
Гонар вы — не бруд!

З Новым Годам на ўсе дні
Дай Бог шчасце роду,
Веры, мудрасці пашлі
Нашаму народу.

Што дасць новы год,
Гэта, пакуль, тайна.
Беларускі род —
Вядзі сябе слаўна.

**Мікалай Панфілюк**

## Будуць чысцейшыя рэкі

У апошніх пяці гадах у Беластоцкім ваяводстве здалі ў карыстанне 26 ачышчальняў сцёкаў. Зараз мадэрнізуюць механічна-біялагічную ачышчальню ў Дуброве-Беластоцкай. У пабудове знаходзяцца падобныя аб'екты ў Белавежы, Крынках, Кляшчэлях, Кузніцы-Беластоцкай і ў Гайнаўцы.

У 1996 годзе распачнуць пабудову гэтага тыпу аб'ектаў у Боцьках, Гродзіску, Гарадку, Сідры і ў Чаромсе. Такую інвестыцыю запланавалі ў Харошчы.

Гарады Васількаў і Супрасль падключылі да ачышчальні сцёкаў у Беластоку. Не мае ачышчальні горад Заблудаў.

Зараз паспяхова працуюць ачышчальні ў Бельску-Падляшскім, Чорнай-Беластоцкай, Саколцы і ў Сямяцічах. Дзякуючы вышэйзгаданым інвестыцыям перапльваючыя цераз Беласточчыну рэкі становяцца чысцейшымі ды і рыб у іх прыбывае.

**(яц)**

# ЦУД У ПУШЧЫ

Улетку беластоцкая прэса падняла гвалт — беларусы мяняюць назвы мясцовасцяў на Беласточчыне. Адразу запратэставала супраць гэтага Управа Рэгіёна Беласток Незалежнага самакіруемага прафсаюза „Салідарнасць". „Związek ten chciałby walczyć z białorusko brzmiącymi nazwami wszelkimi metodami" (*Gazeta w Białymstoku*, nr 158/1995 г.). Выявілася, аднак, што самі беларусы не надта скорыя што-колечы мяняць у іхнім жыцці, тым больш калоць каму-небудзь у вочы. Тады газеты ў Беластоку пачалі пра гэта пісаць з насмешкай, увесь закалот зводзячы да „справы Яновіча".

*— Гэта быў бы свайго роду цуд,* — казаў нам у чэрвені Сакрат Яновіч, — *калі б хоць у адным месцы паважыліся на такую змену.*

**Цуд здарыўся. У Нараўчанскай гміне Ланьчына будзе называцца Ланчына (Łańczyno на Łanczyno).**

Гэтай мясцовасці на нашай карце Беласточчыны мы не знайшлі. Пошукі вырашылі пачаць з гміны.

*— Гэта хутары ля вёскі Масева-2,* — паясніў войт **Мікалай Павільч**. — *Там усяго тры хаты і лясніцтва. Якраз у вёсцы праводзілі мы сход наконт водаправода. Пры нагодзе закранулі і гэтую справу. Інакш цяжка было б сабраць людзей. Усе пагадзіліся, што раз гаворыцца Ланчына, хай так і пішуць. Мы спісалі пратакол са сходу і паслалі ў Ваяводскую ўправу. Астатняе ўжо не ад нас залежыць.*

Ланчына цяжка знайсці не толькі на карце. Праехалі мы на машыне побач і толькі ў Масеве пачулі, што нам трэба вярнуцца. Солтыс Масева-2 якраз паехаў у Гайнаўку. Яго жонка, **Лідзія Анішчук** добра памятае сход.

*— Якісьці з Любліна, ці скуль, хацеў мяняць. Для нас гэта заўсёды было Ланчына.*

У Ланчыне найдалей ад дарогі жывуць Банькоўскія. Пушча падступаецца пад самую хату. Драўляная забудова, высокі плот, панадворак загружаны дрывамі. Увайшоўшы ў хату, пабудзілі мы гаспадыню, якая была задрамала.

*— Ад дзікоў тут не адагнацца,* — наракала старэйшая кабета, — *ды і іншая лясная звярына лезе ў шкоду.*

На сходзе яна не была. Сумняваецца, што водаправод правядуць аж да іхняй сядзібы. Пра змену назвы не чула.

*— Можа сын вам што скажа.*

Сын аднак нічога не сказаў. Абуджаны, з яўнай непрыхільнасцю праверыў нашыя дакументы і зноў зачыніўся ў сваім пакоі.

Калі цётка вывела нас на панадворак, спыталіся мы:

*— Адкуль у вас такое польскае прозвішча?*

*— Польскае?* — здзівілася яна, — *я думала, што беларускае.*

Падыходу да хаты лесніка бараніў невялічкі, зяўкатлівы сабачка, які так і не ўпусціў нас за брамку. Выйшаў да нас сам гаспадар, **Мікалай Раманчук**. Хаця быў гэта чацвер, ён ужо прачытаў новы нумар „Нівы".

*— У мяне,* — паказаў ён на шыльду лясніцтва, — *так і напісана Łanczyno. А вось тут непадалёк, на непрацуючай ужо вузкакалейцы стаіць знак Łęczyno.*

На прыпынку мы ўбачылі трэці варыянт назвы: *Łańczyno.*

Да апошняй хаты падысці мы не адважыліся. Гучныя праклёны і падазроны грукат, узмоцненыя лясным рэхам, адвялі нас ад гэтага. Само сабой з'явілася жаданне як найхутчэй пакінуць гэты кут у пушчы. Аж тут на табе, алень пасярод гравійкі пагрозліва наставіў у наш бок разложыстыя рогі. Не хапала над ім толькі заходзячага чырвонага сонца.

* * *

У гміне Нараўка была прапанова памяняць назвы яшчэ пяці мясцовасцей: Грушак, Гушчэвіны, Баравых, Лешукоў і Елянкі. Іх жыхары не пажадалі мяняць дакументы. У Ланчыне такой праблемы няма.

**Ганна Кандрацюк**
**Мікола Ваўранюк**

# Трагічны канец сям'і

Хрысціна і Андрэй пажаніліся, як і мае быць, ад кахання. Потым па-божаму нажылі двое прыгожанькіх дзетак. Здавалася, толькі жыць і цешыцца, як растуць малыя. Тым больш, што з вясковай хаты пераехалі ў гарадскі блёк.

І сапраўды жылі шчасліва, але ўсяго нейкіх сем гадоў. Потым Андрэй стаў штораз часцей і мацней запіваць. Пасля аднае выпіўкі стала яму мала. Калі нап'ецца, забываўся дзвярэй сваёй кватэры, начаваў у нейкіх валацуг, звязваўся з падазронымі жанчынамі. Хрысціна цярпела, цярпела, ды не вытрывала — узяла дзетак ды паехала да сваіх бацькоў. Але ж дзеці ёсць дзеці, бацька ім патрэбны. Ды і як будзеш на карку бацькам сядзець, калі ў хаце ўжо брат з сям'ёю. Каля праз два тыдні прыехаў Андрэй — цвярозы і надта ж мізэрны — вярнулася дахаты.

Запоі і шаленства мужа аднак не канчаліся. Жыць станавілася цяжэй і цяжэй. Аднойчы, калі Андрэй разышоўся, Хрысціна выклікала паліцыю. Андрэй трапіў у выцвярэзнік.

Раніцай, пакуль вярнуцца, зайшоў ён да сястры. Пераказвалі потым людзі, што выходзячы адтуль, прашыпеў: „Я з ёю, б..., разбяруся".

Хрысціна чысціла бульбу, рыхтавала абед дзецям, якія неўзабаве павінны былі прыйсці са школы. Андрэй не сказаў ні слова, толькі нервова захадзіў па кватэры, то туды, то сюды. Раптам схапіў з кухоннага стала малаток, якім б'юць мяса на катлеты і ўдарыў Хрысціну па галаве. Раз'юшаны біў дзе папала, па спіне, па руках. Закрываўленая Хрысціна здолела выпаўзці на лесвіцу. Андрэй за ёй не выйшаў.

Хуткую дапамогу паклікалі суседзі. Лекары сцвердзілі пашкоджанне галавы, зламаную руку і дзве рабрыны ды агульныя пабоі.

Калі прыехала паліцыя, кватэра не была зачынена на ключ. Паліцыянты агледзелі яе — пуста. Заглянулі ў ванную і прыбіральню, таксама пуста. Адзін з функцыянераў прыкмеціў злёгку прыадкрытыя дзверы шафы. Заглянуў туды і ўбачыў Андрэя. Той вісеў на поясе.

Хрысціна і Андрэй жылі разам дзевяць гадоў, два апошнія — як у пекле.

**ак**

*PS. Імёны змененыя.*

# Мужыкі як зубры

Дзе яны цяпер, мужыкі як зубры, як дубы?.. Нашыя вясковыя асілкі, што ў далонях ламалі падковы, цвікі згіналі ў абаранкі? Малады селянін быў узорам квітнеючага здароўя, сімвалам дужасці і мацаты.

Сёння вясковыя мужчыны ўміраюць часцей чым сялянкі іх узросту і іх гарадскія аднагодкі. Гэту з'яву стараюцца апісаць лекары і дэмографы, якіх яна асабліва трывожыць. Прычынай смерці 20—24-гадовых вяскоўцаў найчасцей бываюць атручэнні, траўмы (уразы), пухліны (ракі) і хваробы кровазвароту. Такая тэндэнцыя назіраецца ад 1960 года. Дэмографы і ўрачы, навукова займаючыся гэтай справай сцвердзілі, што маладыя сяляне часцей чым гараджане паміраюць ад траўм і атручэнняў. Падобна ёсць і з хлопчыкамі, пачынаючы ад пятага года. Прычынай смерці дзяцей найчасцей ёсць няшчасныя выпадкі, звязаныя з недастатковай апекай бацькоў і цікаўнасцю малых да ўсякай тэхнікі.

Найбольш маладых сялян памірае ва ўсходніх і часткова цэнтральных раёнах Польшчы — у Беластоцкім, Бялападляшскім, Холмскім, Ломжынскім, Астралэнцкім, Сядлецкім і Варшаўскім ваяводствах, а таксама на поўначы краіны — у Пільскім, Слупскім і Шчэцінскім ваяводствах. Гэтая з'ява пашыраецца ў гады росту прамысловасці і урбанізацыі, а стала асабліва яркай у час грамадскага і гаспадарчага крызісу.

Што ўплывае на тое, што гінуць недапільнаваныя бацькамі хлопчыкі? Абцяжаранне дарослых працай, недахоп у вёсках дзіцячых садкоў, асабліва летам (калісьці ў жніво арганізаваліся *дзяцінцы*). Падросткі і нават дзеці дапамагаюць бацькам, бяруцца за працу не на свае сілы і падрыхтоўку. Большасць маладых мужчын — перамучаныя, занятыя часам на гаспадарцы і даязджаючыя на працу ў блізкі горад; калі страцяць працу, якая прыносіць ім штомесяц грошы, вельмі часта трапляюць у кіпцюры пачвары алкагалізму.

Умовы працы ў вёсцы, механізацыя і хімізацыя патрабуюць падрыхтоўкі да карыстання сучаснымі метадамі ў гаспадарцы. Недахопы ў ведах і ўмеласці часта ёсць прычынай няшчасных выпадкаў, траўмаў, атручання. Селянін мусіць быць майстрам на ўсе рукі — мусіць „знацца" і на будаўніцтве, і на сантэхніцы, на сталярцы, электрычнасці, а не мае ж найчасцей падрыхтоўкі і вопыту. А калі да ўсяго гэтага дадаць яшчэ наша гора — гарэлку, прычыну дарожных выпадкаў, драк, забойстваў, руйнавання сем'яў, ціхай падступнай смерці ад атручання мозгу і ўсяго арганізму, перад намі раскрываецца вобраз чорны і прыгнятаючы...

Найчасцей — так было заўсёды — вясковы чалавек падаецца да лекара ўжо не на сваіх нагах. Па-першае, не расчульваецца над сабою, калі нешта ў ім хрыпіць, скрыпіць і трэскае, бо і часу няма, і лекар далёка або не прыехаў. Калі тут ехаць чалавеку на рэабілітацыю ці ў санаторый, калі каровы мычаць, свінні вішчаць, куры, авечкі, цяляты?.. І так арэ наш селянін, не разгінаючы спіны, не дбаючы пра здароўе. І колькі тае радасці мае... Каб пажыць чыста, прыгожа, культурна. Каб хоць дзеці лепш мелі... У горад іх пашле, на „панскае". У нашых вёсках ёсць ужо і водаправоды, і каналізацыя нават з ачышчальнямі сцёкаў (як у Ласінцы), і жыць бы якасьці можна было б... Ну, жыць можна, кажуць пенсіянеры, але здароўя сабе ўжо не вернеш ні сам, ні ніхто іншы табе яго не дасць.

Ну, дзе тыя нашы хлопцы як зубры? Хлопцы выхаваныя на бульбе і бураках, бо мяса „панства" забрала на падаткі, хлопцы з папсаванымі зубамі і чорнымі ад нікаціну лёгкімі, хлопцы, якім за жонку — бутэлька?.. Можа, падацца ім у еўрапейскія фермеры? Паветра ў нас чыстае, вада празрыстая, трава зялёная...

**Міра Лукша**

# Беларусы выказаліся за дэмакратыю

Працяг са стар. 1

жаўная манаполія ў тэлебачанні, радыё, прэсе была ліквідавана.

Прага ўлады ў прэзідэнта была так вялікая, што задумаў ён кіраваць дзяржавай без ніякага парламента. Пайшоў далей чым савецкія дыктатары, якія прынамсі фармальна захоўвалі існаванне заканадаўчых органаў улады. Беларускае тэлебачанне і радыё рабілі ўсё, каб адвесці грамадзян ад удзелу ў выбарах. Калі б прыйшло галасаваць менш чым 50 працэнтаў выбаршчыкаў, Лукашэнка кіраваў бы дзяржавай пры адсутнасці якога-небудзь іншага органу ўлады. Сам ствараў бы законы і сам пільнаваў бы іх рэалізацыю. Не было б нават каму распісаць чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Дзеля такога вырашэння справў прэзідэнт закрыў нават на некалькі дзён расійскае тэлебачанне на тэрыторыі Беларусі, па якім Шушкевіч, Грыб і іншыя лідэры апазіцыі заклікалі грамадзян да актыўнага ўдзелу ў выбарах. Дзеячы БНФ гаварылі словы, якіх не спадзяваліся пэўна сказаць ніколі: „галасуйце на каго хочаце, нават на камуністаў, але толькі прыйдзіце і аддайце свой голас".

На працягу чатырох гадоў існавання свае дзяржавы штосць аднак адмянілася ў грамадскім выхаванні беларусаў. Рашучая большасць, ідучы галасаваць 29 лістапада і 10 снежня, свядома выказалася за дэмакратыю і супраць таталітарнага кіравання. Людзей не паўстрымала ні нахабная антывыбарчая прапаганда, ні найлепшыя фільмы ў тэлебачанні, ні неспрыяльнае надвор'е. Няважна нават, што новы Вярхоўны Савет больш левы чым папярэдні, але выбраны ён паводле дэмакратычных правілаў і мае маральнае і канстытуцыйнае права на станаўленне дзяржаўнага заканадаўства.

Гэтыя выбары паказалі таксама, што савецкая маса памалу, але пастаянна, пераўтвараецца ў супольнасць грамадзян свядомых таго, што ад іх саміх залежыць іх уласны лёс. Калі толькі пратрывае дзяржава, праўдападобна ў будучыні не трэба будзе беларусам саромецца за вынікі свайго галасавання. Пачаткі заўсёды бываюць нялёгкія.

**Яўген Міранов іч**

*Віктар Ярмалковіч*

# На хвалях жыцця

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### У засценках УБ

На даху таварнага вагона прыехалі мы ў Ольштын. Тут намовілі нас пададцца ў Біскупец, дзе неўзабаве даручылі мне арганізаваць гарадскую адміністрацыю. У Біскупцы працаваў я два гады. Потым уладкаваўся я ў дырэкцыі энергетычнага аб'яднання ў Ольштыне і на работу даязджаў з Біскупца.

Прыйшоў лістапад 1949 года. Аднойчы пад вечар выйшлі мы з жонкай у горад. На вуліцы падышло да нас двух работнікаў УБ (Ужэнду Бэзпечэньства). Трэба было вяртацца. У калідоры перад кватэрай чакалі яшчэ трое. Паказалі ордэр на вобыск і арышт. Спісалі ўсю маёмасць і загадалі ісці разам з імі. Ноч правялі мы ў падвале будынка УБ у Біскупцы, а раніцай адвезлі нас у Ольштын.

У камеры падвала УБ у Ольштыне, у якую пасадзілі мяне, было ўжо двух арыштантаў. Я быў трэці. Усе мы паходзілі з Віленшчыны. Адзін з новых знаёмых называўся Гвяздоўскі і жыў раней на вуліцы Кальварыйскай у Вільні. Пасадзілі яго за анекдоты. Расказваў ён смехатворныя здарэнні пра Сталіна, нехта данёс і ў выніку анекдатыст трапіў пад варту. Гвяздоўскі па прафесіі быў радыётэхнікам і да вайны працаваў на віленскай радыёстанцыі.

Другім таварышам па нядолі аказаўся малады хлопец па прозвішчу Станкевіч, родам з Шумска. З выгляду падобны быў ён на лагоднае ягня, але на сумленні ў яго быў ужо адзін ці два міліцыянты. Станкевіч, нейкі Нарвайш, таксама з-пад Шумска, і яшчэ нехта (прозвішча не помню) змовіліся ды ездзілі па ваяводстве і грабілі кааператывы, нападалі і забівалі знаёмых „стрэбіцеляў". Грабежнікі, відаць, любілі прытым музыку, бо забіралі з сабою перш за ўсё гармонікі. „У Чырвонцы каля Біскупца былі мы таксама, — расказваў Станкевіч. — Улезлі мы там у хату нейкага мясцовага вармяка. Пачалі перашукоўваць дом і знайшлі ружжо". У тым часе раздаўся нейкі выстрал. Зладзеі падумалі, што гэта набліжаецца міліцыя і сталі ўцякаць праз акно. Апошняга з уцекачоў гаспадар схапіў за ногі і не адпускаў. Астатнія злачынцы схапілі свайго калегу за галаву і намагаліся яго вырваць з рук гаспадара. Цягаліся яны так нейкі час. Станкевіч не задумоўваўся над тым, чаму яны ўлезлі ў чужы дом, але ўсё разважаў, навошта вармяку патрэбнае было ружжо.

А ўбоўцы застаўлялі нас пісаць біяграфіі і дапытвалі аб усіх і аб усім. Не хацелі толькі слухаць пра Коцата. Аднойчы адзін з іх у размове са мною накінуўся на беларусаў. Паводле яго, беларусы — гэта выдумка немцаў. Разгарачыўшыся, пытаў ён мяне: „Ну скажы, ці не так, ну гавары!" — „Беларускую Савецкую Рэспубліку стварылі камуністы", — адказаў я. „Ах так! — жахнуўся ён і, памаўчаўшы хвіліну, дабавіў: — То ты з такей бэчкі зачынаш? Добжэ, то мы цебе там высьлемы". З гэтага часу мяне сталі штораз радзей выклікаць на допыты. Аднойчы на спецыяльным бланку запісалі маё прозвішча, імя і іншыя персанальныя даныя, але не ўсё запісанае ў дакуменце паказалі мне, толькі загадалі падпісаць. Падпісаў.

Была ўжо зіма 1950 года. Выклікалі мяне з камеры, пасадзілі ў машыну і завезлі на кватэру ў Біскупец. „Бяры ўсё, што лічыш патрэбным", — сказаў мой апякун з УБ, не раскрываючы мэты гэтай паездкі. Узяў я сёе-тое для сябе і Аўгінні, хаця нічога акуратнага мы тады не мелі.

Аўгінню трымалі аддзельна. Спачатку ў камеры яна была сама, але пазней падасалі ёй нейкую псіхічна хворую жанчыну.

У лютым вызвалі мяне з камеры на верх, прывялі Аўгінню, аддалі нам вопратку і ўсе асабістыя прадметы. Вечарам адвезлі нас на чыгуначную станцыю ў Ольштыне. Аўгіння расказала мне, што аднойчы запыталі ў яе: „Ці паедзеш з мужам у Савецкі Саюз? Муж едзе, вось яго подпіс", і паказалі той бланк. Як потым аказалася, убоўцы напісалі ў ім, што я — грамадзянін СССР. Праверыўшы мой подпіс, жонка сказала: „Добра, паеду разам і я", і таксама распісалася.

Цяпер везлі нас у Варшаву.

*(працяг будзе)*

# Даўно таму ў Заблудаве

Супрасль і Заблудаў у XVI стагоддзі былі вялікімі цэнтрамі ўсходнеславянскай культуры. Развіццё гэтых гарадоў было вынікам палітыкі іх уласнікаў, беларускіх магнатаў Хадкевічаў. Калі ў Супраслі пратрывалі астаткі старадаўніх мураў і царкоўных фрэскаў, у Заблудаве з тае эпохі не асталося нічога. Гісторыя не спрыяла гэтым хадкевічаўскім гарадам, а з іх залатога перыяду пратрывалі да нашых дзён толькі неацэнны вартасці помнікі пісьменнасці, якія цяпер знаходзяцца ў найзнакамітшых бібліятэках свету.

Пра Супрасль, у сувязі з сучасным змаганнем за ўласнасць манастырскіх мураў, даволі шмат пішацца і гаворыцца ў сродках масавай інфармацыі. Зразумела, што гістарычны кантэкст у гэтых разважаннях мае першараднае значэнне. Пра Заблудаў успамінаецца найчасцей толькі падчас навуковых канферэнцыяў. Тым часам у заблудаўскім манастыры Благавешчання Прасвятой Дзевы Марыі ў шасцідзесятых гадах шаснаццатага стагоддзя была закладзена першая на тэрыторыі ўсходняй Еўропы друкарня, дзе надрукавана было першае Евангелле на старабеларускай мове.

Гэтай незвычайнай падзеі ў гісторыі нашай зямлі прысвечана кніжка Юрыя Лабынцава і Ларысы Шчавінскай „W mieście zwanym Zabłudowem". Аўтары, вядомыя даследчыкі славянскай культуры, супрацоўнікі Расейскай акадэміі навук, апублікавалі ўжо на гэтую тэму ў розных навуковых выданнях дзесяткі артыкулаў. Кніжку ў перакладзе Міколы Гайдука на польскую мову выпусціла выдавецтва „Orthdruk", а графічна аформіў яе Лявон Тарасэвіч.

Славутае мінулае цэнтраў культуры Вялікага княства Літоўскага — Супрасля і Заблудава больш вядомае за мяжой, чым на Беласточчыне. Таму кніжка пра заблудаўскую друкарню, яе стваральнікаў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, а таксама фундатараў — Хадкевічаў, на Беласточчыне надта ж патрэбная.

рэд.

---

J. Łabyncew, L. Szczawińska, *W mieście zwanym Zabłudowem*, Białystok 1995, tł. M. Hajduk, wyd. Orthdruk, ss. 96.

# З дзённікаў С. Яновіча

**1993—06—21.**

(...) Пазванілі з Канцыляры Прэзідэнта: уключаюць мяне ў склад урадавай дэлегацыі на чале з Валэнсам, якая 28—29.VI правядзе перамовы ў Менску. Як прадстаўніка беларусаў Польшчы. Па прапанове міністра Зюлкоўскага.

**1993—06—24.**

Выкарыстоўваю свой удзел у дзяржаўнай дэлегацыі для перамоваў у Менску дзеля падмацавання аўтарытэту нашага тут беларускага руху. Заўчора Антось наладзіў мне сустрэчу з уладыкам Савам (як ставіць справу вяртання манастырскіх будынкаў у Супраслі). А ўчора — у тандэме з Алегам: будзе перакладчыкам дэлегацыі, — на форуме Беларускага Саюза (абмежавацца да пастаноўкі пытання аб утварэнні Цэнтра Беларускай Культуры ў Беластоку; не множыць спраў).

У травеньскім *Першацвеце* (Менск) Лукшанка змясціла падборку майго: *След Сікеля* і пяць іншых. Наколькі памятаецца, другі раз столькі пасля чэрвеньскай *Беларусі*'91.

Еду з Таняю ў Лодзь, на шлюб Яраслава (-26.VI).

**1993—07—03.**

(...) Панядзелак і аўторак — у Дзяржаўнай дэлегацыі Польшчы на чале з прэзідэнтам Л. Валэнсам на перамовах у Менску (проста ад Яраслававага шлюбіку ў Лодзі; Таня вярнулася ў Беласток). Не памятаю ўжо так утомных для мяне дзён! Добра прадстаўляць нацыянальныя інтарэсы — гэта руінны здароўю занятак!!! З свядомасцяй непатортнай нагоды, прычым раптоўнай.

Згодна праграме, усюды выпадала быць, ад рання да позняга вечара, хоць саміх перамоваў з маім удзелам было ўсяго нешта каля гадзіны з *гакам*, зараз жа пасля прылёту ў Менск. Па лініі культуры. З польскага боку — Закшэўскі, Ягела, Карп... З беларускага — Дзямчук, Рылатка... Палякі, папраўдзе, мелі адну справу: прымусіць Менск успамагаць сваю польскую меншыню (таму і спатрэбіўся я ім). У сваім выступленні я не мог не пахваліць Варшаву. Бо і сапраўды — без дацыяў зусім мала беларуская ўзнікла б ды выжыла б у нас. Саветы ж ахвотна бачылі б нашу пагібель. А цяпер жа, Рэспубліка Беларусь, замест спадзяванае намі маштабнай помачы — накшталт тае ад Польшчы беларускім палякам — штурхае толькі ў процпольскія правакацыі, што на руку перш за ўсё... Маскве. Таму не было ў мяне сумненняў, тлумачачы тым пастсаветам вырашальную ролю варшаўскіх міністэрстваў, асабліва Культуры, у духоўным развіцці Беластоцкага краю; надта бедныя мы самі.

— У сваім артыкуле, напісаным у „Ніву", я размеркаваў акцэнты, вядома, інакш, тым не менш пастаўленае мною ў гэтых перамовах пытанне ўтварэння Цэнтра Беларускай Культуры ў Беластоку з'явілася нечаканасцяй абодвум бакам (нягледзячы на факт публікацыі на гэты конт у адным з першых нумароў *Беларускіх навінаў* БДА). З увагі на шалёны кошт — гэта ініцыятыва не будзе рэальнаю без падтрымкі і Менску, хоць Варшава аказалася прыхільнай ёй.

Усё, аднак, будзе адбывацца ў кантэксце фразы, неяк сказанай Валэнсам у час прэс-канферэнцыі: столькі будзе дапамогі польскім беларусам з боку Варшавы, колькі будзе яе беларускім палякам з боку Менску.

Цэбар вады на галовы тутэйшых палякаў лінуў Валэнса яшчэ і такімі словамі: хочаце, каб польская дывізіі пайшлі на Навагрудак, а беларускія — на Беласток?!.. Даволі крыві!

І: не дапушчу да польскай *пятае калоны* ў Беларусі і беларускай — у Польшчы!

Граніцы павінны быць празрыстымі.

Таварыска трымаўся я найчасцей прафесараў Казлоўскага і Гейштара, віцэ-міністра культуры Ягелы, ген. Камарніцкага, пасла Смулковай (клеіўся да мяне М. Зюлкоўскі, ейны дараднік; інтэлігентнейшы ўсё ж Галкоўскі, І сакр. пасольства). Карп. Старасцяк. І яшчэ нейкія... Больш намагаўся на жарты, каб пазбягаць роспытаў, зандзіраванняў. Наогул удалося мне, нават надзвычайна; у вяртанне ў Варшаву (...) Мілеўскі, Джыцімскі, Вахоўскі...

У адлёт — падбег мін. Краўчанка і паўсакрэтна паведаміў, што нібы ўзгодніў ён з Валэнсам, каб наш Алег Л. стаў дарадцам прэзідэнта па бел. пытаннях у Польшчы.

Падобных сакрэтаў было больш: Закшэўскі расказаў мне, як няпростым аказалася ўвесці маю асобу — замест Барскага — у склад г. дэлегацыі (пісьмова абгрунтавалі). (...)

Прыглядзеўшыся да кухні вялікай палітыкі, да знаёмых мне асабіста палітыкаў, зрабілася страшна: гэтыя, пераважна маладзейшыя за мяне людзі, жахліва пастарэлі ўсяго праз некалькі гадоў выконвання дзяржаўнай улады! (...)

(...) Беларуская гадзіна ў Польшчы — ад 14.05 да 15-ай (з мінутамі) доўгая перадача-дыскусія па І праграме тэлебачання аб праблемах нашай меншасці. Слухаў і радаваўся: усе маладыя і добра, інтэлігентна, выступілі — Алег, Антось, Юрка Каліна, Мордань, Пац... Базыль Ляшчынскі (адзіны стары). Маем эліту. Кадру. Ужо лідэраў! — І як рэха, мае даўняе інтэрв'ю пусцілі *Толькі зямля не здрадзіць*...

**1993—07—27.**

Свята Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Да рэальнай незалежнасці яшчэ далёка, яна пакуль што дэкаратыўная, але нават праз якіх дзесяць гадоў будзе ўжо адчувальная, бо пачне ўваходзіць у жыццё маладое, незамацаленае, пакаленне. Вайны не будзе, на шчасце!

*(працяг будзе)*

У кіпцюрах цецерука

# Ліст у рэдакцыю

Шаноўны Спадар Рэдактар! Не падабаецца мне Ваша газета. Не падабаецца проста таму, што героямі Вашых рэпартажаў з'яўляюцца толькі людзі звычайныя, людзі, якіх тысячы снуюдаюцца па тратуарах нашага горада. Вядома, што з натоўпу цяжка вылузаць чалавека вартаснага, чалавека незвычайнага, чалавека, прачытаўшы пра якога, свет упадзе на калені ды перахрысціцца ад уражання. З гэтай прычыны пастанавіў я не чакаць, пакуль нехта мяне адкрые, а толькі сваімі рукамі выпхнуцца на белы свет.

Непаўторныя рысы свайго характару атрымаў я ў спадчыне па далёкіх продках. Гэта ж мая прапрабабуся кухарыла ў спадарства Адама і Евы, а прапрадзед быў там выдатным краўцом. І наколькі прабабусі хапала працы ў кухні, дзед — пыхкаючы люльку — ляжаў сабе пад райскім дрэвам, карыстаючыся бясконцай куранёўкай. Вядома ж, ягоныя гаспадары хадзілі голыя, бы натурысты ў Халупах. Прабабуся падумала крыху, пафіласофствавала і выфіласофствавала: тыцнула Еве пад нос фатальны яблык. Што было далей, кожны ведае: сорамна стала Адаму, сканфузілася Ева. А майму прадзеду насталі працавітыя дні. Яшчэ і сёння несмяротная швейная машына „Зінгер", пры дапамозе якой прадзед вычароўваў цудоўныя, райскія сукні і кашулі, стаіць у нас дома. Заўсёды акуратна ачышчаная ад пылу, заўсёды на пачэсным месцы.

Нязвычныя рысы свайго характару прыкмеціў я яшчэ ў дзіцячым садзіку. Усе мае сябры даілі ў нагавічкі, от так сабе, без прычыны, а ўласную нязграбнасць тлумачылі маладым узростам.

Не скажу, мне таксама здаралася напампаваць у трусікі, усё-такі не таму, што я быў смаркач, о не! Здзяйсняў я гэты грэх цалкам свядома. І хаця ні мама, ні настаўніца не давалі веры, я ўжо тады праводзіў даследаванні на тэму ўплыву частага мачаспускання на трываласць баваўняных трусікаў.

Шаноўны Спадар Рэдактар!

Сёння без лішняй скромнасці хачу прызнацца: усё маё жыццё — адно доўгае даследаванне і праверка. Чаго я не правяраў?!

У школе правяраў, ці настаўнікі ведаюць фізіку і геаграфію, у войску — правяраў, як далёка заедзе танк, калі вадзіцель пакіне руль. Праводзіў таксама і псіхалагічныя даследаванні, напрыклад, як доўга можна прыдзірацца да музыкантаў на забаве ў чужой вёсцы і не ўзяць па спіне. Калі б хто-небудзь не верыў, на ўсё тое, што тут сказана, ёсць у мяне доказы: разбураны дом на акраіне вайсковага палігона ля Драўска-Паморскага, ці шырокая на тры пальцы шчыліна між маімі зубамі. Толькі з адшуканнем майго настаўніка фізікі можа быць нейкі клопат, бо гэты добры чалавек рэдка бывае дома. Найчасцей прагульваецца ён па парку, дзе дрэвам і кустам тлумачыць, што лісце падае на зямлю дзякуючы гравітацыі і Ньютану.

Шаноўны Спадар Рэдактар!

Калі спатрэбіцца Вам інтэрв'ю з цікавым чалавекам, прыязджайце. Многа не абяцаю, але пяць—шэсць старонак запішам.

З пашанай да Вас, сталы чытач

**Уюн Мікалай М.**

PS. Памылкі ў тэксце зроблены свядома, каб праверыць: ёсць яшчэ ў Рэдакцыі спецыялісты па арфаграфіі, ці звяліся?

**Ад рэдакцыі:** Будзем.

# „Я быццам не выязджаў з дому"

Размова з Міхасём Аўхіменем, музычным кіраўніком калектыву „Чыжавяне".

— Я працую выкладчыкам музыкі на факультэце пачатковага выхавання Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. І так здарылася, што ўжо больш за год прыязджаю ў Чыжы. Цяжкавата, зразумела, але неяк уцягнуўся і зараз даю сабе рады.

*— Як Вы пачалі супрацоўнічаць з „Чыжавянамі"?*

— Да мяне працаваў тут мой калега Анатоль Куніцкі. Ён вельмі многа зрабіў з калектывам, я толькі прыняў эстафету. Мне цяпер цяжка ў тым сэнсе, што „Чыжавяне" вельмі вядомы на Беласточчыне калектыў, які мае добрыя вынікі сваёй працы. Будзем цягнуць, каб яны заўсёды былі высокімі.

*— Што Вы хацелі б дасягнуць у працы з калектывам?*

— Ну, вядома, прафесіяналамі яны не стануць, бо людзі ж займаюцца сельскай гаспадаркай, вельмі шмат часу адыходзіць у іх на хатнія справы. Але трэба дасягнуць нейкага такога ўзроўню, можа не прафесійнага, але вельмі высокага. Я бачыў на вашых святах беларускай песні, што там узровень сапраўды высокі. І таму проста спяваць пад музыку, гэтага ўжо мала. Трэба нешта рабіць больш.

*— Вы займаецеся не толькі з „Чыжавянамі".*

— Мяне папрасілі кіраваць дзіцячымі калектывамі ў трох школах нашай гміны: у Курашаве, Кленіках, Чыжах. Я гаварыў „нашай", бо сапраўды Чыжоўская гміна за гэты час стала для мяне роднай. Я яшчэ курырую дарослы калектыў у Збучы, які там толькі што ставарэцца. Але асноўны мой абавязак, гэта „Чыжавяне".

*— Гміну Чыжы лічыце Вы ўжо роднай, а якія наогул Вашы ўражанні ад Беласточчыны?*

— Першыя мае ўражанні былі такія, што я быццам і не выязджаў з дому. Калі я праязджаў па вёсках Беласточчыны, здавалася мне, што я ў ваколіцы Ліды, Ваўкавыска ці Гродна. Увогуле людзі ў вас вельмі ветлівыя, падобныя да нашых. І я не бачу ніякай розніцы, ці я дома, ці тут.

*— Як Вы ацанілі б народную творчасць Беласточчыны?*

— Мяне нават здзівіла тое, як тут так захаваны фальклор. Людзі памятаюць тыя песні, як іх называюць, з-пад страхі. У нас, вядома, фальклор такі больш стылізаваны, апрацаваны на добрым прафесійным узроўні. Але ў вас спяваюцца тыя песні, якія спяваліся дзесяць, дваццаць, пяцьдзесят і сто гадоў таму. І гэта вельмі цікава, бо маем тут датыненне з багатай, невычэрпнай крыніцай.

*— Дзякуй за размову.*

Гутарыў
**Мікола Ваўранюк**

# З Маладзечна ў Сібір

Генік Шурмач нарадзіўся ў сялянскай сям'і, якая працаю прапрадзеда Трафіма і наступных пакаленняў дарабілася, паводле НКУС, кулацкай маёмасці. Непадалёк возера Нарач стаяў, пабудаваны бацькам, наш дом, —успамінаў Генік. — Навокал быў сад з пасекай. Вайны 1939 года, праўду кажучы, не адчулі. У першы дзень Вялікадня 1941 г. НКУС арыштавала майго бацьку, а 20 чэрвеня раніцай забралі мяне з мамай, малодшым брацікам і сястрычкай з роднага дому. На вакзале ў Баранавічах было многа такіх як і мы кулакоў. Упіхалі ўсіх у быдлячыя вагоны і замыкалі дзверы. У нашым вагоне было каля 50 асоб; не хапала паветра, вады. Нкусаўцы не рэагавалі на нашы патрэбы. На адной станцыі выцягнулі ўсіх мужчын і, як пасля дазналіся, расстралялі ўсіх у манастыры ў Беразвечаве. Яшчэ сёння чую плач матак, жонак і асірочаных дзяцей. Мы ехалі яшчэ чатыры тыдні. У дарозе ў нашым вагоне памерла пяць асоб. Дзе і як іх пахавалі, ніхто з астаўшыхся ў жывых не ведае. Пасялілі нас у драўляных бараках. Мама працавала ў пральні. Я апекаваўся малодшым брацікам і сястрычкай а таксама яшчэ тройкай іншых хлопчыкаў. У кастрычніку пачалася цяжкая сібірская зіма. Было вельмі холадна ў няшчыльных бараках. Сырая пасцель і вопратка прымярзалі да сцен. Людзі пачалі хварэць і ўміраць. Памерла мая сястрычка, якая так хацела жыць. Захварэла таксама мама, але, на шчасце, хутка выздаравела. Елі суп з гнілой бручкі, бульбы і буракоў. Галодныя дзеці хадзілі на сметнік, але там таксама нічога не было. Помню, што аднак у адзін снежаньскі дзень удалося мне знайсці крыху бульбяных лупін, якія, як найбольшы скарб, прынёс у барак. Мама зварыла і закрасіла алеем, які купіла за прададзенае залатое кальцо і за вопратку сястрычкі. Быў гэта найлепшы прысмак, які давялося мне ў жыцці есці. Куцця была сумная. На двары шалела мяцеліца і снег улятаў праз шчыліны ў сценах. Печка распаленая да чырвані грэла толькі тых, што сядзелі найбліжэй яе. Навесну 1942 г. перасялілі нас у тайгу, на лесазагатоўку ў Чумыш, у міжрэччы Обі і Старыцы. Па дарозе цяжка расхварэўся ад прастуды мой брацік Пётр. Вазак расціраў яго снегам, паіў толькі сабе вядомымі напіткамі, акрываў сваёю вопраткаю і так адратаваў ад смерці. Чумыш аказаўся маленькім пасёлкам з некалькіх зямлянак і драўляных хат. Нас пасялілі ў маленькай зямлянцы, якое вокны ледзь выходзілі над зямлю. Было вільготна, але прытульна. Пад сцяною стаялі збітыя з дошак шырокія нары ды негабляваная лава. У куточку палілі вогнішча, дым з якога выходзіў праз спецыяльную дзірку. Дзверы адкрываліся дасярэдзіны, каб, як завее снегам сібірская мяцель, можна было іх адкрыць і выйсці з зямлянкі. Працаваў я вяжучы канаты для звязвання дрэваў, што сплаўлялі летам у Навасібірск. Калечыў рукі вяроўкамі, але выраблюць норму трэба было, інакш не атрымаў бы і так маленькага надзелу харчоў. Мама працавала ў лесе пры вырубе дрэў. Разам з другімі жанчынамі клала на санкі вялізныя сібірскія хвоі. Ад болю ў плечах перастала праставаць, ад недаядання выпадалі зубы. Мела 35 гадоў, а выглядала на 70. Я зразумеў, што толькі абавязак апекі над намі трымаў яе пры жыцці. Дакучаў нам голад. Маёй вялікай марай была скібка сухога хлеба; начамі снілася яда ў родным доме. Каб не дапамога мясцовых жыхароў, чакала б нас немінучая смерць. Яны, хаця самі галадалі, дзяліліся з намі кусочкам хлеба, квашаным грыбом ці жменяй абляпіхі. Наступіла вясна 1943 года. Над водамі паявілася мноства камароў. Без марлевых масак ці спецыяльных кадзільнікаў нельга было выйсці з зямлянкі. Тысячы галодных камароў кідаліся на кожны кусок адкрытага цела. Хаця прымяняў я прафілактычныя меры, захварэў малярыяй. Не было ніякіх лякарстваў; з кожным днём трацяў сілы. Мама цяжка плакала і шукала мне дапамогі. Вылечыла мяне сабе толькі вядомымі лякарствамі 80-гадовая Антаніна Бяляева; успамінаю яе з вялікай удзячнасцю. Пад канец лета мама вярнулася ўзрадаваная з працы, прытуліла нас. Даведалася пра падпісанне польска-савецкага дагавору і магчымасць выезду ў Польшчу. Камендант лесазагатоўкі не хацеў пусціць нас у Барнаул. Мы ўцяклі; два дні і дзве ночы прабіраліся да рачной прыстані на Обі. Капітан парахода за сабраныя ягады і грыбы забраў нас у Барнаул. Мама знайшла працу ў млыне: насіла мяшкі з мукою і збожжам. З працы вярталася змучаная, кашляла, плявала крывёю. Была аднак шчаслівая, бо пад ватоўкай прыносіла жменьку кашы або сырога цеста. Цешылася, што мы не галодны. Я памагаў прыбіраць шпіхлер і вагоны, а дома быў галоўным кухарам. Памагаў мне малодшы брацік. Часта бракавала грошай і я стаў прадаваць папяросы. Аднойчы прылапаў мяне міліцыянер, я ад яго ўцёк і з таго часу, калі прадаваў папяросы, меў вочы навокал галавы і ніколі больш не даўся злапаць. Жылі на калідоры ў клубе прадпрыемства, так як і многа другіх сем'яў. Клуб стаўся асяродкам асветы і культуры: вучылі тут беларускай і польскай моў. Вясною 1946 года выехалі ў Польшчу. На вакзале ў Барнауле царыў энтузіязм; слёзы шчасця самі плылі. У красавіку перасяклі мяжу.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Вучыцца будуць не толькі вучні

Ужо ад Новага года ў цэлай краіне пачатковае школьніцтва пераходзіць пад кампетэнцыю органаў тэрытарыяльнага самакіравання. Але так да канца ў гмінах не ведаюць, што атрымаюць. Найбольшыя страсці, як заўсёды, выклікаюць грошы. Падчас ранейшых абмяркоўванняў пераходу школ пад самаўрады найбольш увагі адводзілі таму, каб дзяржава зняла са школ іхнія задоўжаснасці. Гэтага самаўрады дабіліся (хаця гэта не да канца пэўнае), але нават пакрыць бягучыя выдаткі асветы можа аказацца шэрагу гмінам не пад сілу. Вось прыкладная сітуацыя — горад Бельск-Падляшскі.

У Бельску шэсць пачатковых школ, з якіх адна спецыяльная і не пераходзіць пад гміну. У астатніх пяці — 4470 вучняў, з якімі займаюцца 278 настаўнікаў. Апрача іх 18 працаўнікоў адміністрацыі і 71 — абслугі. Гэта абазначае штомесячны выдатак чатырох мільярдаў злотаў толькі на зарплаты настаўнікам і дапаможнаму персаналу. Да гэтага трэба далічыць грошы на неабходныя бягучыя рамонты, на пакупку дапаможнікаў, кніжак у школьныя бібліятэкі, не кажучы пра большыя інвестыцыі. Пры вельмі ашчадным гаспадаранні трэба ў Бельску на пачатковае школьніцтва выдзеліць у год як мінімум 50 мільёнаў старых злотаў. Выдатак гэта немалы, калі ўлічыць, што ўвесь гадавы бюджэт горада складае 80 мільярдаў.

Гарадская гміна Бельск, можна сказаць, нябедная і з дапамогай дзяржаўнай датацыі свае школы ўтрымае. Але перад уладамі стаюць і іншыя пытанні. Напрыклад: фактычныя кіраўніча-адміністрацыйныя кампетэнцыі гміны. Хто мае рашаць аб павелічэнні аднае школы, ці аб закрыцці іншай. З ліку пяці бельскіх школ, дзве маюць асобны статус. Пачатковая школа н-р 3, як безраённая з увагі на абавязковае навучанне беларускай мовы і Пачатковая школа н-р 5, з класамі ад першага да пятага (пакуль). У „тройцы" найгоршая сітуацыя, паколькі памяшканняў для навучання два разы менш, чымсьці класаў. Што тут рабіць, як адкрываць класы з прадметам „беларуская мова" ў іншых школах, на што дазваляе закон, ці разбудоўваць школу? Або што рабіць з кур'ёзнай Пачатковай школай н-р 5, якую ў 1992 годзе стварыў тадышні беластоцкі куратар Пётр Літэрмус толькі таму, каб будынак былога камітэта партыі не даць „тройцы"? Ці разбудоўваць яе да поўнай 8-класнай, калі ў горадзе нагляндаецца выразны спад колькасці дзяцей у школьным узросце, ці проста ліквідаваць, а яе акругу раздзяліць па суседніх школах?

Новыя пытанні ўжо неўзабаве прынясе жыццё. Адказы на іх давядзецца даваць практычнай дзейнасцю. Відаць, вучыцца будуць не толькі вучні.

**Мікола Ваўранюк**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Нарадзіўся Божы Сын

Промень зоркі
з неба ліўся
ў цішыню начных далін.
Нарадзіўся,
нарадзіўся,
нарадзіўся
Божы Сын!

Ён узяў
сабе на плечы
незвычайны,
дзіўны лёс.
У абліччы чалавечым
Божы сын —
Ісус Хрыстос.

Ён грахі людзей
адкінуў
у той самы час,
калі гінуў,
калі гінуў
на Галгофе
дзеля нас.

Але смерць
над ім не ўладна.
Ён узнёсся,
уваскрос.

**Артур Вольскі**

## Неўзабаве Каляды

Ад нейкага часу я і мае сёстры ўспамінаем мінулагоднія Каляды. Нашыя бацькі рашылі навучыць нас новых калядак. Кожны вечар мы слухаем касеты з калядкамі і паўтараем іх. Пакуль што найлепш выходзіць нам найпрыгажэйшае, як кажа мама, „Рождество Христово". Пасля спявання ўсе ўспамінаем мінулыя святы. І адразу чуем пах ёлкі, сена, рыбы, баршчу, куцці. Не ўсе дзеці, якія жывуць у горадзе, ведаюць, што пад абрус трэба палажыць сена. Праўда, мама крышку крывіцца на непарадкі ад гэтага сена. Аднак ад традыцыі мы не адступім. Успамінаючы калядную яду, пра аўсяны кісель, робіцца вельмі сумна. Гэты кісель умела варыць толькі прабабка. Яна ўжо памерла. І з той пары мы ўжо не ставім гэтай арыгінальнай стравы на святочны стол. Кісель смакаваў непаўторна. І асабліва тады, калі яго палівалі шчолкам, які варылі з сушаных яблык і груш.

Нашыя размовы і калядкі рыхтуюць нас да свята. Пра гэта я магла б гаварыць бясконца. Аднак трэба рашаць урокі, памагаць маме рыхтавацца да свята.

Усім чытачам „Зоркі" і Вам, дарагія рэдактары, жадаю добрага здароўя і шчасця, зычу дачакаць Каляд і правесці іх у спакойнай, сямейнай атмасферы.

*Будзьце здаровы,*
*каб Каляд дачакалі,*
*у шчасцю пражывалі,*
*яшчэ за год дажджалі.*

**Жанэта Роля,**
**вучаніца кл. V„а"**
**Пачатковай школы н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**



*Падрыхтоўка да Каляд.* **Фота з архіва**

## Вершы Віктара Шведа

**Ныцік**

Складаны вельмі вучняў лёс,
Бацькі і школа робяць свінства.
Шчэ кожны з нас малакасос,
А забіраюць нам дзяцінства.

У школу кажуць нам хадзіць,
Ды не навучаць там багата.
Трэба ж і гэтае ўлічыць —
Якая ж гэта часу страта.

**Штучныя зубы**

Біёлаг запытаў Якуба,
Слабейшага сярод усіх дзяцей:
— Якія ў чалавека зубы
Паяўляюцца найпазней?

Страшэнна сорамна малому,
Доўга ў маўчанні ён стаяў.
— Дык зубы штучныя, вядома,
Сябра па парце падказаў.

**Калумб — вялікі чалавек**

Калумб — вялікі чалавек,
У нашых сэрцах будзе жыць
заўсёды.
У пятнаццаты ўжо век
Амерыку адкрыў усім народам.

Пярэчыць заўсягды прывык
Гарэзлівы надзвычай Пеця:
— Амерыка — вялікі мацярык
Яго ж і немагчыма не
прыкмеціць.




**Добры дзень,**
**паважаныя супрацоўнікі**
**рэдакцыі тыднёвіка „Ніва"!**

Пішуць вам вучні 6 „Д" класа сярэдняй школы н-р 65 горада Мінска. Нейк наша настаўніца беларускай мовы прынесла ў клас некалькі нумароў вашага тыднёвіка. Ён нам вельмі спадабаўся, асабліва „Зорка", старонка для дзяцей.

Нас прыемна ўразіла тое, што ў Польшчы любяць і ведаюць беларускую мову, нашы песні і абрады: мы слухалі беларускія песні ў выкананні гурту „Маланка".

На жаль, у нас на Беларусі мала людзей карыстаецца беларускай мовай, пануе руская мова. Мы таксама вучымся ў школе з рускай мовай навучання, а сваю родную беларускую толькі вывучаем, але ў нас ёсць вялікае жаданне ведаць яе дасканала.

Паважаныя сябры, мы звяртаемся да вас з просьбай: ведаем, што ў Польшчы жыве шмат беларусаў, дапамажыце нам, калі ласка, пасябраваць з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія наведваюць беларускую школу. Нам было б цікава даведацца, як яны жывуць, як вучацца, чым захапляюцца. Думаем, што нам будзе лёгка зразумець адзін аднаго, таму што ў нас агульная мова.

Хутка пачнуцца святы. Мы вельмі чакаем іх, таму збіраемся правесці ў сваім класе Каляды.

Шчыра віншуем вас са святам Раства Хрыстова і з наступаючым Новым годам. Жадаем вам шчасця, здароўя, дабрабыту, плённай працы.

З павагай: Абразцоў Андрэй, Космач Павел, Цеслюк А., Шынтар Д., Стасевіч Дар'я, Саруханава Юлія, Бачыла Аляксандра, Шапель Вольга, Руткевіч Каця, Васіленка Ала, Азановіч Таццяна, Дубінка Ксенія, Карповіч Алёша, Дварэцкі Д., Міхалёў Я., Эпштэйн А., Лебедзева К., Астаповіч С.

**Ад рэдакцыі:** Усіх зацікаўленых супрацоўніцтвам з мінскімі школьнікамі просім напісаць у „Зорку".

# СУСТРЭЧА

Як толькі малая Ганулька Адамюк з Чыжоў бярэ ў рукі „Зорку", дык так і шукае, ці няма там на здымку кагосьці з іхняй сям'і: мо напісалі там пра яе старэйшага брацікa Петруся, а мо пра яе, Аню, ці нават маленькую сястрычку Марту. Было ўжо ў „Зорцы" пра іх не раз. У сям'і Адамюкоў усе чытаюць „Ніву", і мама, і тата, і дзед, а зараз і дзяўчынкі.

А цяпер вось і мне давялося пагутарыць з Аняй. Было гэта 10 лістапада 1995 года. У Вялікіх Тыневічах спявачы гуртoк „Тыневічанкі" святкаваў свой 15-гадовы юбілей. У зале тыневіцкага клуба сабралася шмат людзей. Выступілі не толькі „Тыневічанкі", але і хор з Гайнаўкі ды спявачкі з Арэшкава, з якімі надта сябруюць тутэйшыя жанчыны.

Аня прыехала на канцэрт у Тыневічы, бо тут жывуць яе бабка і дзедка, маміны бацькі. Тут нарадзілася яе мама, і гэта быццам другая Аніна родная вёска. Прыехалі ўтраіх: мама, Аня і Марта, якой усяго два з паловай годзікі. А дзевяцігадовы Пятрусь застаўся дома, у Чыжах, каб тату не было сумна. Яшчэ ў Чыжах ёсць у іх дзедка — бацькаў тата, а бабкі ўжо няма — памерла.

Аня ходзіць у першы клас, а расказвае пра ўсё, быццам дарослая. Яна вучыцца ў Чыжах, а яе мама, Ніна Адамюк, даязджае на працу ў Бельск, дзе ў беларускай школе н-р 3 выкладае матэматыку і музыку. Аня таксама любіць музыку і хацела б на нечым іграць, але пакуль што ў музычную школу не даязджае.

Прыемна было сустрэцца з гэтай мілай дзяўчынкай і пагутарыць з ёю.

**Ада Чачуга**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Аня (злева) і Марта са сваёй мамай Нінай Адамюк у Вялікіх Тыневічах.*



Талон "Зоркі" н-р 13
31.12.1995

## Выдатнікі са Старога Корніна

Хаця ў Старым Корніне невялікая школа, многа там выдатнікаў па беларускай мове. Гэты прадмет вывучаюць амаль усе дзеці. Многія з іх ідуць пазней у беларускія ліцэі.

Настаўнікі беларускай мовы Крыстына Бялецкая і Васіль Сегень прадставілі сваіх найлепшых вучняў. Сярод іх ёсць дзеці з усіх класаў. Варта назваць іх прозвішчы: Пятрусь Аксянцюк і Юліта Харытанюк з другога класа, Агнешка Івацік і Агнешка Занкевіч з трэцяга, Ася Гаўрылюк, Анэта Галімская і Марко Малышэўскі з чацвёртага, Марыля Гэрман, Анеля Гаўрылюк, Івона Малышэўская з пятага, Марыля Аксянцюк і Марко Тамчук з шостага, Ганна Сурэль, Агнешка Галімская з сёмага і Эва Шварц з восьмага.

З прыемнасцю хачу таксама адзначыць, што сярод выдатнікаў ёсць наша карэспандэнтка Анелька Гаўрылюк з пятага класа. У сённяшняй „Зорцы", пад здымкам, друкуем яе допіс пра Стары Корнін.

З-ка



*Настаўнікі беларускай мовы Крыстына Бялецкая і Васіль Сегень са сваімі выдатнікамі.*

## Мая вёска

Стары Корнін заснаваны быў у XVI стагоддзі. Калісь тут рос густы лес. Каралева Бона пасяліла тут людзей, каб высякалі дрэвы і вырывалі карэнні. Адтуль і назва вёскі: **Корнін**. Некаторыя людзі перасяліліся ў іншае месца. Каб адрозніць гэтыя вёскі паўсталі назвы: Стары і Новы Корнін.

Ад даўніх часоў Стары Корнін вельмі змяніўся. Цяпер у вёсцы жыве **250** асоб. Пераважна займаюцца яны сельскай гаспадаркай. У маёй мясцовасці знаходзяцца: магазін, пункт скупкі малака, школа, у якой вучуся, бібліятэка, пажарная каманда, пошта, а таксама калгас.

Найвышэйшы будынак у Старым Корніне — гэта царква. Яна памаляваная на сіні колер. Служаць у царкве два бацюшкі. Прыходзяць сюды памаліцца жыхары суседніх вёсак: Махнатае, Ягаднікі, Мора, Карыціскі, Істок і Вітава.

Я вельмі люблю маю вёску.

**Анеля Гаўрылюк**

## Любі і шануй родную мову

Мяне завуць Хрысціна Семянюк. Я вучаніца I „ц" класа Бельскага беларускага ліцэя. Хачу Табе „Зорка" напісаць, чаму мы павінны любіць і шанаваць родную мову.

„Любі і шануй родную мову" — так я заўсёды пісала вялікімі літарамі на пачатку сшытка па беларускай мове. Я думаю, што кожны чалавек — патрыёт — павінен любіць і шанаваць родную мову. Так многа вершаў выдатных беларускіх паэтаў на гэтую тэму.

Маёй роднай мовай ёсць беларуская. Я стараюся шанаваць і любіць яе таму, што гэта мова маіх дзядоў і прадзедаў. На гэтай мове я гавару ў хаце. У школе аднак мы гаворым па-польску, таму што мы жывём у Польшчы і гэтая краіна з'яўляецца нашай айчынай. Я думаю, аднак, што гэта не значыць, што маёй роднай мовай мусіць быць польская. Мае продкі жылі калісьці ў Беларусі і гаварылі па-беларуску. І я думаю, што гэтая мова ёсць маёй роднай.

Словы Віктара Шведа, што „родная мова як маці — яе нельга ніколі забыць", заўсёды астануцца ў маёй памяці.

Вельмі прашу цябе, „Зорка", надрукуй мой артыкул у Вашай газеце.

Дзякую,

Хрысціна

**Ад рэдакцыі:** Дарагая Хрысціна! Пішаш, што ліцэісты гавораць таму па-польску, бо жывуць у Польшчы. Такая матывацыя выгадная, але нічога супольнага з праўдай не мае. Ты проста не адрозніваеш нацыянальнасці (narodowości) ад грамадзянства (obywatelstwa). Нацыянальнасць — гэта спадчына па нашых продках: мова, рэлігія, гісторыя, этнаграфія, знешні выгляд. Яе нельга памяняць, бо бацькоў сабе не выбіраем. Можна засвоіць іншыя культуры, разумець іх, але гэта не абазначае, што адразу набываем іншую нацыянальнасць. Так робяць крывадушныя або прымітыўныя людзі.

Грамадзянства — гэта прыналежнасць да дзяржавы, у якой жывём. Напэўна чула ты, што ў Польшчы апрача беларусаў жывуць украінцы, літоўцы, славакі, немцы. Яны, як і мы, апынуліся тут пасля змены дзяржаўнай мяжы. І зусім не трэба нарадзіцца ў Беларусі, каб быць у Бельску-Падляшскім беларусам. Жыхары гэтага горада былі грамадзянамі і Вялікага княства Літоўскага, і Прусіі, і Расеі, і Польшчы. Нягледзячы на гэтыя змены, яны ніколі не памянялі нацыянальнасці.

З-ка

## Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 13

NIETOPERZ, ŻOŁĄDŹ, HUK, ŁYKO, WYRZUT, CHINY, ŻYŁA, ODA, KOT, RAK, OKAZJA, RAJ

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, якія падаем на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу двух тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 9:** манах, лапа, багун, цана, палац, нага, хапун, хана.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі:
1/ Іаанна Смактуновіч з Бельска-Падляшскага,
2/ Марта Тапалеўская з Кленік,
3/ Аня Селеванюк з Шастакова,
4/ Ірэк Абрамюк з Нарвы,
5/ Івона Сегень з Гайнаўкі,
6/ Анэта Трафімюк са Старога Беразова,
7/ Марта Сельвясюк з Махнатага,
8/ Анджэліка Сельвяструк з Градочына.

**Рашэнне тэматычнага конкурсу**

Трэба было адказаць на пытанне: „Пад чым уплывам Аня Садоўская з Нарвы напісала верш „Кастусь"?"

Адказ: Аня Садоўская верш „Кастусь" напісала пад уплывам „Новай зямлі" Якуба Коласа.

Узнагароды — запісныя кніжачкі — выйгралі: Аня Садоўская з Нарвы (за конкурсную ініцыятыву) і Пятрусь Дэмянюк з Падрэчан.

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

### Баран

Як у старэйшых мужчын у Вярхлесе, што каля Саколкі, раней было запытацца пра чорнага барана, дык кожны ўхмыляўся і адразу запярэчваў: „Я яго не вазіў" і, памеркаваўшы, дадаваў: „То Іван Канцавы збіраўся на ім капітал збіць". Але калі размова ішла з тым Іванам, то ён усклікваў: „Што вы?! Хто вам такое нахлусіў? Гэта ж Васіль Крыжавы ўсю ноч з тым бараном барукаўся..." Аднак Васільаднекваўся і на каго іншага паказваў. І выходзіла, што калісьці таго чорнага барана ўвесь Вярхлес вазіў.

Здаралася ж тое, калі нехта падаваўся ў Супрасль ці Беласток лясным трактам праз балоцечка Лізы. У Супрасль, вядома, выязджалі на світанку, але вярталіся пазнавата, часцей за ўсё ноччу. Ну а ў Беласток, дык адпраўляліся звечара. І як толькі ноч заставала чалавека ў Лізах, то не прамінаў прыблукацца да яго спасены чорны баран.

Круцілася тая жывёліна вакол воза ці саней ды бляяла, як быццам прасілася ў рукі. Вядома, чалавек не мог стрываць, каб такое дабро ў лясной крэкаці марна прападала. Саскокваў з воза, вязаў барана ды ўвальваў у палукашкі. Конь хроп пры гэтым, быццам пачуў воўчую зграю. Рваў жа, бедны, загразлы ў зямлю па самыя восі воз, ажно аглоблі трашчалі. Але такія дзівосы няўцям былі чалавеку — ён ужо прыкідваў у галаве, колькі на рынку возьме за такую штуку. Прадаўшы — а ў гэтым ён быў упэўнены, бо жывёліна тлустая, што і касцей не дамацацца — якую рэч прыдбае ў гаспадарку ці да хаты. Дарма! Як толькі ранкам з-за стромкіх сосен і ялін бліснулі на купалах Супрасльскай царквы залочаныя крыжы, баран мігам разрываў пастронкі, саскокваў з воза і кідаўся ў лес з такім рогатам, што ажно кастрыца з хвояў дажджом сыпалася. І гэтак заўсёды.

Чаго толькі не выдумлялі верхлясяне, каб таго барана ўтрымаць! Адны замест пастронкам вязалі яго ланцугом, але калі наставаў час уцёкаў, жалеза распырсквалася, быццам павуцінне. Другія барана вязалі ды ўпіхвалі ў акаваную жалезам скрыню — разляталася яна адно трэскі фуркацелі. Але вось адзін чалавек скеміў, што ў гэтай жывёліне, няйнакш, нячыстая сіла сядзіць. Узяў ён новы пастронак, пакрапіў яго свянцонай вадою і, дачакаўшыся першых пеўняў, рушыў з падворка.

Ноч выдалася месячная, відная, хоць ты іголкі збірай. Конік бадзёра папырхваў і вазок жвава каціўся па працёртай умёрзлай дарозе. Неўзабаве і тыя Лізы. А як жа ж — і баран з'явіўся. Але не забегаў вакол фуры, не забляяў, адно стаяў на ўскраіне дарогі і ўзіраўся. Схапіў вярхлесавец свянцоную вяроўку, саскочыў з воза і да барана: „Базю, базю!.." — кліча ды адну руку працягвае, быццам пагладзіць яго хоча, а другую з вяроўкай за плячыма трымае. Баран той падпусціў яго на які крок ад сябе ды ўзяў павярнуўся і паволі ў лес пакрочыў. Селянін — за ім. Баран жа ўсё далей яго ў лес павёў. Чалавек пабачыў: справа нялёгкая, жывёліну лавіць трэба. Завязаў ён на вяроўцы пятлю і барану на галаў закінуць мяркуе.

Баран жа, прыкмеціўшы гэтакі намер, скокнуў наперад, павярнуўся, разбегся ды як саўдане лобам чалавеку ў жывот — той і накрыўся пасталамі. Жывёліна адскочыла і пазірала, што далей пачне чалавек. А той сарваўся ды пусціўся наўцёкі. Баран жа — скок! скок! — ды як бухне чалавеку ў плечы — той і зарыў носам у мох. Усхапіўся ды ў крык: „Ратуйце-е-е!" Але ж хто понача ў лесе наведаецца? Адбегся чалавек колькі крокаў, а баран зноў — тоўк! — яго ў плечы і той па грудзе кулём пакаціўся. „Ну, халэмус мне тут будзе — затаўчэ ж нячыстая сіла... — падумаў бедалага і, устаўшы на калені, узмаліўся: — Божа, злітуйся, не гінуць жа мне ад гэтай паганай жывёліны!.." і ахінуў сябе знакам крыжа.

У той жа момант як зашумела, як загуло: ажно маладыя елкі да зямлі прыселі, а па чорным баране тым і след прастыў.

Даваломся чалавек да свайго коніка, зняў шапку, шчыра падзякаваў Госпаду і ў супакоі падаўся ў сваю дарогу.

З таго часу, кажуць, пра чорнага барана чуткі зацiхлі. Потым праклалі там новую дарогу і балоцечка Лізы як быццам зменшылася, а праз якісьці час і цалкам знікла. Адно і засталося, што назва ды вось гэтая легенда.

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

**Барукацца** — біцца, змагацца.
**Палукашкі** — пляцёны караб, які калісьці ўстаўлялі ў воз ці сані.
**Няўцям** — незразумела.
**Пасталы** — даўні абутак з цэлага кавалка скуры, які насілі на нагах агорнутых анучамі і прывязанымі аборамі (тонкімі вяровачкамі або раменьчыкамі).

# Я свайго характару не змяню...

**З Казімежам Дэркоўскім, дырэктарам Аддзела культуры, спорту і турыстыкі Ваяводскай управы ў Беластоку гутарыць АДА ЧАЧУГА**

*Спадар дырэктар! Дамаўляліся мы з Вамі на гэту размову, калі Вы былі яшчэ дырэктарам Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, а вось гутарым ужо ў кабінеце дырэктара Аддзела культуры, спорту і турыстыкі Ваяводскай управы. Ад 1 верасня Вы пайшлі на павышэнне, але засталіся ў культуры. Ці шмат змянілася ў Вашай працы?*

— Там была канкрэтная культурная ўстанова, нешта накшталт майстэрні, у якой я мог рэалізаваць свае ідэі, беручы пад увагу, вядома, фінансавыя рэаліі, і такім чынам будаваў тоеснасць Ваяводскага дома культуры. Там была творчая праца: прыдумаеш — рэалізуеш.

*— А тут?*

— Тут я выконваю тры функцыі. Перш за ўсё гэта адміністрацыйная функцыя: трэба кіраваць гаспадаркай культуры ваяводства. А гаспадарка складаная: самаўрадавыя пляцоўкі, установы культуры, грамадска-культурныя таварыствы, таварыствы нацыянальных меншасцей, творчыя саюзы.

Другая функцыя гэта стварэнне супольнага вобразу трох галін — культуры, спорту і турыстыкі, — калі ўжо так называецца гэты аддзел Ваяводскай управы. Цяпер штудзірую спорт і турыстыку, бо культуру я спазнаў ужо добра.

Ну, а што датычыцца трэцяй функцыі, дык і тут яна падобная на тую, якую выконваў я ў доме культуры: ініцыятыва, творчы працэс і рэалізацыя.

*— Адным словам, ёсць што рабіць!*

— На працягу гэтых пару месяцаў я наведаў 32 гміны, удзельнічаў у сустрэчы дырэктараў аддзелаў культуры ў Пяремышлі, якую арганізавала Міністэрства культуры і мастацтва. Быў у Варшаве на нарадзе дырэктараў у справе спорту і турыстыкі, ды ў Гданьску на семінары: „Маркетынг у турыстыцы". Удалося мне сустрэцца ў Мельніку з грамадска-рэгіянальным рухам; былі размовы з рознымі групамі асяроддзя мастакоў; правёў сустрэчы з камісіяй культуры і асветы Рады горада і Ваяводскага самаўрадавага сейміка.

Размаўляў таксама з дырэктарамі гмінных асяродкаў культуры з ваяводства (у ВААКу) і з бібліятэкарамі.

Але перш за ўсё я пазнаёміўся з установай, у якой працую, „ад кухні".

*— І як?*

— Ведаю ўжо шкілет свайй гаспадаркі, а з дробязямі, мяркую, пазнаёмлюся па ходу працы.

*— Ці мелі Вы ўжо нагоду правесці нейкія сустрэчы з беларускім асяроддзем?*

— Дасканалым урокам быў візіт Сеймавай камісіі па нацыянальных і этнічных справах на лініі Гайнаўка — Бельск-Падляшскі — Беласток.

*— На першым плане стаяла, здаецца, справа Беларускага музея ў Гайнаўцы, акрэсленне яго статусу?*

— Так, і я выслухаў погляды парламентарыяў, войтаў, бурмістраў, БГКТ і Беларускага саюза. Тэмпература была гарачая, не было выпадковых, непадрыхтаваных выступленняў.



*На аглядзе калядных калектываў у Драгічыне, студзень 1995 г. Першы злева — Казімеж Дэркоўскі.* **Фота Ады Чачугі**

*— І ў выніку?*

— Ёсць прапанова, каб быў гэта дзяржаўны музей „bez przeniesienia prawa własności", а адміністравала б яго Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Толькі пры такіх умовах маглі б быць прызнаны дзяржаўныя сродкі на функцыяніраванне музея. Гэта занадта вялікі аб'ект, каб мог ён існа-ваць толькі на базе грамадскіх сродкаў.

*— Ясная справа, калі адно ацяпленне мае каштаваць 400—600 мільёнаў у год! Але дзе гарантыя, што некалі нехта не махне беларусам паперкаю пад носам, што, маўляў, дзяржаўная гэта ўласнасць, а беларусам што да яе... Здараліся ўжо ў нас такія выпадкі, вось хоць бы і з музейнымі экспанатамі, збіранымі беларусамі. А, як і Вам вядома, ужо шмат гадоў беларусы з усяго свету збіралі грошы на гэты музей, найбольш значна дапамаглі амерыканскія і канадскія беларусы ды Рэспубліка Беларусь, якая дастаўляла перш за ўсё абсталяванне. Ды і тутэйшыя людзі не спалі ў шапку: давалі і грошы, і грамадскай працы не шкадавалі для свайго (?) музея.*

— Я лічу, што калі людзі працавалі столькі гадоў для гэтага музея, збіралі грошы па ўсім свеце, будавалі, стараліся, рабілі захады дзе толькі можна, дык трэба ж было б захаваць характар гэтай будоўлі.

*— Гістарычнай для ўсходняй Польшчы!..*

— У сувязі з гэтым трэба давесці да кампрамісу паміж характарам гэтага аб'екта і магчымасцю яго існавання. Найважнейшай справай на сёння лічу кампраміс паміж галоўным будаўніком музея Кастусём Майсенем і БГКТ, а другой справай было б давесці да пагаднення між Музеем беларускай культуры і Міністэрствам культуры і мастацтва. Я цяпер на этапе першага кампрамісу: стараюся давесці да сустрэч прадстаўнікоў БГКТ і музея. Найважнейшай справай было б збліжэнне поглядаў сярод беларускіх дзеячаў.

*— Амерыканскія беларусы вельмі занепакоены такой пастаноўкай справы Беларускага музея. Ходзяць чуткі, што праз суд могуць запатрабаваць звароту сваіх грошай, калі музей перастане быць уласнасцю беларусаў. Хто тады будзе аддаваць тыя (немалыя!) грошы: дзяржава, БГКТ, ці мо Кастусь Майсеня, які за грошы даваў распіску?!*

— Не хачу ўваходзіць у юрыдычныя гісторыі. Гэта яшчэ перад намі. Але трэба падкрэсліць, што ў гэтым музеі ўсё вельмі задбана, людзі самі рабілі сталярку.

*— Спадар Майсеня ўжо больш дзесяці гадоў жыве гэтым музеем! Людзі, як могуць, дапамагаюць. Няўжо дзяржава не можа даць музею датацыі на ўтрыманне?*

— А тут якраз ёсць праўныя супярэчнасці.

*— Спадар дырэктар! Вы калісьці расказвалі мне, што, хаця нарадзіліся ў Гдыні, дык дзяцінства правялі на кашубскай вёсцы, адкуль Ваша маці. Там Вам было прыемней, чым у горадзе. Такім чынам, можна меркаваць, што Вы лепш за іншых разумееце і беларускія праблемы.*

— Разумею. Захапляюць мяне беларусы, асабліва іх цяга да песні. Бесканкурэнцыйныя царкоўныя хоры, вельмі цікавая абраднасць, а таксама шчырасць і гасцціннасць, часамі нават аж залішне.

*— А памятаеце агляд калядных калектываў у студзені гэтага года? У Драгічын прыехала каля дваццаці беларускіх калектываў і мо сем— польскіх, з тым, што і тыя былі камбінаваныя: то ўвесь калектыў спявае, то тры асобы... Я адчула з боку журы нейкі холад, абыякавасць, калі выступалі беларускія калядныі. І... поўнае захапленне польскімі калектывамі. А беларускія, як Вам вядома, цалкам някепскія калектывы. Ну, даслоўна „быццам смеючыся з нашага брата" (паводле Ф. Багушэвіча) ацэньвалі.*

— Іншасць трэба разумець!

*— Прапрацаваўшы 33 гады ў беластоцкай культуры, Вы найлепш ведаеце, наколькі значнае месца ў нашым рэгіёне займае аўтэнтычная беларуская культура. Ці не здаецца Вам, што калі глянуць на працэнтныя суадносіны датацый на польскую і беларускую культуры, дык беларусы маглі б спадзявацца большага?*

— Працэнтаў я не лічыў, а бюджэт на будучы год яшчэ не зацверджаны.

*— Ці можаце абяцаць нам, што Вы будзеце і надалей апекавацца беларускай культурай?*

— Я свайго характару не змяню. Аднак жа не хацеў бы, каб пра мае сімпатыі сведчылі тыя мізэрныя грошы, якія ў нас ёсць на культуру. Лічу, што праца ў Аддзеле культуры гэта мая найбольш сур'ёзная місія ў жыцці. Калі б мае ідэі і пажаданні маглі быць забяспечаны хаця ў 50 працэнтах фінансавымі сродкамі, я ведаў бы, што з імі зрабіць.

*— Зычым здзяйснення Вашых мараў у Новым годзе!*




*Z dziejów Europy Środkowo-Wschodniej. Księga pamiątkowa ofiarowana prof. dr. hab. Władysławowi A. Serczykowi w 60 rocznicę Jego urodzin. Filia Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku, Białystok 1995, ss. 425. W tym:*



**Р. С.**

29-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

# Пра дзесяць пракажоных

*(Лукі, 17:12-19)*

У гэтую нядзелю вернікам прапануецца чытанне з 17-га раздзела Евангелля паводле Лукі, у якім расказваецца пра аздараўленне Хрыстом дзесяці пракажоных. З аздароўленых людзей толькі адзін вярнуўся, каб падзякаваць Богу за дабрадзейства, што выклікала дакор у адрас няўдзячных дзевяці астатніх.

Становішча евангельскіх пракажоных напамінае крыху сітуацыю сучасных хворых на СНІД. Яны таксама былі ізаляваныя, таксама сустракаліся з чалавечай варожасцю і з бояззю заразіцца. Асуджаныя на павольнае канание, усё на свеце аддалі б за аздараўленне ад невылечнай хваробы. Вось таму евангельскія пракажоныя павінны былі быць асабліва ўдзячныя за аказанае ім дабрадзейства. Іх аднак памяць падвяла тады, калі павінна была б асабліва моцна прыпамінаць пра бязмежную Божую міласэрнасць. Евангельскі прыклад няўдзячнасці — з'ява тыповая для чалавека любой эпохі. Калі прыглядзецца і прааналізаваць нашае ўласнае жыццё — бачна колькі разоў і мы выявілі няўдзячнасць у адносінах і да Бога, і да людзей. „За ўсё дзякуйце", — заклікаў сваіх вучняў Апостал Павел і меў на ўвазе не толькі галоўныя дабрадзействы — жыццё і збаўленне. У адносінах да Бога людзі паступаюць бы тое дзіця, якому дзядзька даў цукерку. Калі маці звярнула яму ўвагу: „А што трэба сказаць дзядзьку?", яно падыходзіць і кажа: „Дзядзька, дай яшчэ". Успамінаючы сваё жыццё мы бачым, колькі заўдзячваем таксама людзям. У самых розных сітуацыях у жыцці, заўсёды знаходзіўся чалавек, які ў нечым дапамог нам і паўплываў на далейшы наш лёс. Гэтак было, калі мы былі бездапаможнымі немаўляткамі, калі фармаваўся наш характар і зацікаўленні, калі выбіралі прафесію або школу, калі паступалі на працу. У кожным з гэтых выпадкаў, без удзелу розных людзей магло быць цалкам інакш. Часам не мелі ўплыву нашы асабістыя заслугі і здольнасці, але проста нехта выявіў бескарыслівую зычлівасць, дабрыню або спачуванне. У жыцці, не гаворачы пра самое жыццё, нас спаткала мноства незаслужаных дабрадзействаў. На вялікі жаль, неяк пра іх не памятаем і не ўспамінаем, неаднойчы адплачваючы сваім дабрачынцам чорнай няўдзячнасцю. Колькі разоў здараецца, што бацькі ў вельмі цяжкіх умовах, адымаючы сабе ад рота, выхаваюць сямёра-васьмёра дзяцей, усім запэўняць асвету, за кожнае хваліючыся і дапамагаючы пакуль хопіць сілаў, а калі прыйдзе недалужная старасць, васьмёра добра ўладкаваных дзяцей не могуць забяспечыць спакойную старасць адной, старой матцы або бацьку... Мабыць, такія з'явы меў на ўвазе мітрапаліт Філарэт, калі пісаў: „Няма нічога больш гнюснага за няўдзячнасць. Гэта ўсё роўна, што ашуканствам узяць тое, што не належалася".

Апантаны бязбожнік Дзям'ян Бедны напісаў аднойчы пра купца, які ў хвіліны небяспекі на параходзе абяцаў у выпадку выратавання паставіць Богу свечку вялічынёй мачты. Калі спыталі яго, адкуль ён возьме такую вялікую свечку, той сказаў: „Спярша дай вымаліць у Бога літасць, каб мне з маім дабром застацца цэлым. Наконт жа свечкі мы паглядзім потым. Ну, скажам, крышачку яе скароцім".

Многія, хто цудам перажыў вайну, нейкую катастрофу або аздаравеў пасля невылечнай хваробы, скарацілі абяцаную Богу свечку да мікраскапічных памераў. Галоўнае, што выратаваліся, а там наконт доказу ўдзячнасці неабавязкова спяшацца.

Наогул, калі б нехта вырашыў напісаць даслед на тэму чалавечай няўдзячнасці, дайшоў бы да вельмі сумных высноваў. З псіхалагічнага пункту гледжання гэта адна з найбольш парадаксальных з'яў. Кожны памятае, колькі добрага і вартага ўдзячнасці зрабіў іншым, толькі не памятае, колькі сам абавязаны іншым людзям. Нехта трапна заўважыў, што за малыя дабрадзействы дзякуем ахвотна і часта; за сярэдняй важнасці паслугі і дапамогу ўдзячнасць выказваем ужо радзей, а за вялікія, жыццёва важныя дабрадзействы пераважна не аддзякваем ніколі. Чаму ж гэтак цяжка выказаць удзячнасць? Мабыць таму, што добрае пераважна лічым нармальным і заслужаным, а дрэннае — непаразуменнем і несправядлівасцю. З другога боку свядомасць, што ў нечым мы абавязаны не сабе, але камусьці іншаму — прыкрая як доўг. Пра хвіліны, калі чалавек не меў што есці, у што апранацца, што быў бездапаможны ў нейкай справе — непрыемна ўспамінаць, бо гэта доказ уласнай слабасці. Прызнацца да такога — не гонар! Такая сітуацыя раўназначная напамінанню нам нейкіх сарамлівых учынкаў і паводзін. Рэакцыяй на такое напамінанне можа быць раздражненне і нават варожасць.

Канстатацыя паўсюднасці чалавечай няўдзячнасці не змяняе факту, што ненармальнае застаецца ненармальным. Некалі цар Давід пытаў самога сябе: „Як аддзячыць мне Госпаду за ўсе дабрадзействы Яго?" Для чалавека свядомага не меншых дабрадзействаў з боку Бога і людзей, мабыць галоўнае, каб гэтыя дабрадзействы перш за ўсё належна ўсведамляць.

**а. Канстанцін Бандарук**

У аўстралійскіх беларусаў

## Угодкі Слуцкай абароны

Беларуская грамадскасць Сіднея 3 снежня адзначала 75 угодкі Слуцкай абароны, падчас якой беларусы Случчыны ў арганізаванай, узброенай форме выступілі ў абарону свабоды і незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Святкаванне пачалося а 10 гадзіне раніцы ў царкве ў квартале Гомбуш, дзе а. Ігар адслужыў паніхіду па ўсіх загінуўшых патрыётах. Затым а 13 гадзіне ў Беларускім клубе ў Фэйрфілдзе адбыўся ўрачысты сход, які адкрыў старшыня клуба Міхась Лужынскі. Пасля ўшанавання памяці герояў Случчыны хвілінай маўчання спадар Алесь Алехнік расказаў пра сучасную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь. Прамоўца асаблівую ўвагу звярнуў на антыбеларускія дзеянні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які „пачаў дыскрэдытаваць і ганьбіць так сваю дзяржаву, Рэспубліку Беларусь, як і беларускую мову, гісторыю ды культуру". Параўнаў ён яшчэ дзеянні Лукашэнкі, які імкнецца далучыць Беларусь да Расеі, да паводзін Квіслінга — нарвежскага палітыка-здрадніка, які не любіў сваю Нарвегію і намагаўся далучыць яе да Нямеччыны. Нарвежскі трыбунал дзеянні Квіслінга палічыў нацыянальнай здрадай і прыгаварыў яго да вышэйшай меры пакарання. Алесь Алехнік выказаў думку, што падобны лёс можа спаткаць і ўсіх цяперашніх антыбеларускіх палітыкаў у Рэспубліцы Беларусь. Сваю прамову закончыў ён сцверджаннем, што „незалежная Рэспубліка Беларусь жыве і будзе жыць, а гэтая незалежнасць ёсць і будзе найвышэйшай узнагародай для патрыётаў Случчыны".

Афіцыйная частка святкавання закончылася адспяваннем гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", пасля чаго пачаўся супольны сяброўскі абед, які быў вельмі ўдала падрыхтаваны Жаночым камітэтам пры Беларускім клубе.

**Прысутны**,
Аўстралія
*(імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

# Аб посце

Гартаючы падшыўкі газеты Рускай Зарубежнай Царквы „Православная Русь", у 23 нумары ад 1992 года натрапіў я на артыкул „Подзвіг посту", які належыць пяру архіепіскапа Серафіма. Папраўдзе пост перад Раджаством Хрыстовым працягваецца ўжо некалькі тыдняў, але высновы з гэтага артыкула могуць спатрэбіцца яшчэ і ў гэтым посце і ў наступных.

Перад Узнясеннем Гасподзь Ісус Хрыстос сказаў Сваім вучням: „Дык ідзіце, навучыце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам; і вось, Я з вамі ва ўсе дні да скончэння веку. Амінь" (Матф., 28: 19—20).

І вось сярод запаведзей, якія Збавіцель загадаў выконваць нам, ёсць і пост. У Свяшчэнным Пісанні Старога і Новага запаветаў сустракаем многа прыкладаў выконвання постаў. Ведаем, што Майсей і Ілья, апоры старазапаветнай Царквы, маючы высакародную адвагу прабываць перад Богам, прыступаючы да Яго, прытрымоўваліся посту і малітвы. Вядома таксама, што Майсей, рыхтуючыся да атрымання ад Бога Закону, прабываў на Сінайскай гары і пасціў там 40 дзён. Найбольш з усіх пасціў аднак святы Іаан Хрысціцель.

Пост уласным прыкладам асвяціў нам Збавіцель. Пасля хрышчэння ў Іардане і перад выхадам на публічную дзейнасць і прапаведанне Царства Божага 40 дзён прабываў Ён у пустыні, дзе пасціў і маліўся, рыхтуючыся такім чынам да Сваёй місіі.

У Евангеллі ад Матфея Гасподзь указвае нам, што варожая чалавеку д'ябальская сіла можа быць перамажана толькі малітваю і постам. Таксама і ў Дзеяннях Святых Апосталаў не раз згадваецца пост: „І калі яны адпраўлялі службу Божую і пасцілі, сказаў Дух Святы: выдзяліце Мне Варнаву і Саўла для справы, дзеля якой Я іх паклікаў. Тады яны, папасціўшы і памаліўшыся, ды ўзлажыўшы на іх рукі, звольнілі іх" (Дз. Ап., 13: 2—3).

Апосталы ў сваіх пасланнях і канонах безупынна напамінаюць нам аб неабходнасці захавання постаў. Пасты, якіх прытрымоўваецца нашая Царква, выводзяцца з першых стагоддзяў хрысціянства.

Трэба таксама памятаць, што апрача цялеснага трэба таксама прытрымоўвацца і духовага посту. Сама цялесная ўстрыманасць не прынясе карысці нашай душы без духоўнай памяркоўнасці. Прападобны Абба Дарафей — вялікі аскет, які жыў на пераломе VI і VII стагоддзяў — навучае нас, што не толькі ў ежы трэба захаваць меру, але неабходна таксама паўстрымоўвацца ад усялякага іншага грэху. Калі посцім жыватом, тады павінны мы пасціць і языком, пазбягаючы паклёпаў, пустаслоўя ці гневу. Таксама павінны мы пасціць вачамі — не глядзець на тое, што нічога добра нам не прынясе. Многа дрэннага для нашай душы ў днях посту (асабліва ў наш час няўстойлівасці маральных каштоўнасцей) можа ўчыніць тэлебачанне, друк і т.д., і аб гэтым трэба нам памятаць.

Гэтыя два віды посту ўзаемна папаўняюцца ды імкнуцца да адной мэты — аховы чалавека ад грэху і атрымання збавення.

Усё гэта падмацаванае двухтысячным перыядам вопыту Праваслаўнай царквы і жыццёвай практыкай незлічонай раці нашых святых.

Цяперашні пост набліжаецца да канца. Памятайма аднак, што згодна царкоўнаму ўставу ў апошнія пяць дзён пост абвастраецца і нават у суботу і нядзелю не дазваляецца есці рыбу, а толькі алей, уключна з Куццёй. Зрэшты, гэты дзень называюць таксама Сачэльнік або Сачэўнік, а сама назва паходзіць ад слова *сочиво*, якое абазначае сок з семя, алей, а таксама страву (напрыклад, кашу), акрашаную такім алеем. Згодна гэтаму аказваецца, што звычай спажывання напярэдадні Раджаства Хрыстова рыбы не з'яўляецца праваслаўнай традыцыяй і павінен быць ліквідаваны. Памятайма таксама аб старой традыцыі, якая патрабуе паўстрымоўвацца ад ежы ў гэты дзень, аж да вечара. Калі аднак Куцця прыпадае ў суботу або нядзелю, тады звычай дазваляе пасілкавацца на працягу дня, каб падкрэсліць, што ў гэтыя дні пост заўсёды паслабляецца.

**С. Н.**

# Манахі Афонскай Гары
## аб духоўнасці і іншых сучасных праблемах




Некалькі месяцаў таму Брацтва праваслаўнай моладзі з Гайнаўкі выпусціла кніжку „Mnisi Góry Atos o duchowości prawosławnej". Змешчаны ў ёй галоўным чынам артыкулы айца Гаўрыіла (Кранчука — у мінулым манаха Яблачынскага манастыра): распрацоўка пра Ісусаву малітву, а таксама яго інтэрв'ю з айцамі са Святой Гары. У кніжцы закрануты многія праблемы сучаснага свету, напрыклад аборты, курэнне папяросаў, алкагалізм ці тэлебачанне. У адкрыты і шчыры спосаб, згодна з праваслаўным пунктам гледжання, прадстаўляе ён таксама справы экуменізму і ўказвае значэнне Праваслаўя — Адзінай, Святой Сабornай, Апостальскай Царквы ў жыцці свету. Усё гэта, як піша аўтар, прадыктавана „пачуццём хрысціянскай любві да праваслаўных сабратоў і глыбокай ахвотай і жаданнем дасягнуць выратаванне для ўсяго хрысціянскага роду чалавечага".

Нельга толькі згадзіцца з а. Гаўрыілам у справе, як мне здаецца, прыкладвання лішняй увагі да польскай мовы як літургічнай у жыцці нашай Царквы (інтэрв'ю на стар. 45). З аднаго боку можна зразумець, што ў гэтым выпадку аўтару хочацца, каб маладое пакаленне разумела літургічныя тэксты, аднак з другога боку ягоная шматгадовая адарванасць ад рэаліяў нашага жыцця паўплывала на тое, што аўтар быццам бы забывае значэнне літургічнай царкоўнаславянскай мовы для захавання адзінства Царквы. Гэта нашая шматвяковая традыцыя і вялікі скарб. Шкада толькі, што ў частцы аб Ісусавай малітве адсутнічае яе царкоўнаславянскі тэкст, якім ад вякоў карыстаюцца нашыя вернікі: „Господи Иисусе Христе, Сыне Божий, помилуй мя грешнаго".

Аднак, абыходзячы гэтыя крытычныя заўвагі, трэба падкрэсліць, што кніжка — вельмі каштоўнае выданне. Нават калі для часткі чытачоў непрымальнымі здадуцца змешчаныя ў ёй некаторыя погляды, то напэўна яна пасадзейнічае павышэнню стану нашай свядомасці. Кожны чытач атрымае ад яе многа каштоўных для сябе інфармацый і рад.

Кніжку можна набыць у прыходах.

**С. Н.**

## Як дзед Вандал за Марыну браўся

Сядзелі мы ў гасцях у майго знаёмага маладога гісторыка (ужо мае дасягненні) у невялікай (чалавек з тузін) мешанай кампаніі. Пілі і елі тое што было — няшмат, але смачна. І я не адчуваў сябе старэчай, і мае маладыя сябры не паказвалі, што думаюць інакшай, ніякім намёкам. Было мне тым больш прыемна, што ў кампаніі былі і дамы, некаторыя маладзейшыя ад мяне амаль на паўстагоддзя, а прысвячалі мне не менш увагі (як мне здавалася ў маёй мужчынскай ганарлівасці), чым маім мускулістым, красамоўным і нахабна прыгожым і маладым кампаньёнам. Праўда, пачаў я трошкі занадта красаваца перад імі ўсім што меў — вопытам, глыбокімі ведамі, дасціпнасцю (бо чым жа іншым...). Мая красамоўнасць давяла да таго, што я ў апошнюю хвіліну (дзякуй Богу!) змог заўважыць позіркі маіх суразмоўцаў, поўныя выразу: досыць, дзядзечка Вандал, „труць"! Каго да душы даймаюць справы дваццатых і трыццатых гадоў нашага стагоддзя, пра якія мы дыскутуем ужо трэцюю гадзіну?! Ну, глядзяць на мяне быццам з нейкім шкадаваннем мужчыны ва ўзросце маіх магчымых сыноў ды нават унукаў — як на няшкоднага дзядзечку-кнігаеда, пастарэлага шалапута, „у суме роўнага", з якім і пасмяяцца можна, і паразмаўляць на тэму, але ён нам не раўня. Ужо не зусім і да біткі, і да выпіткі.

Эт, думаю, а чаму мне не прымяніць „прыёму барскага" і не скаламуціць думкі нейкай дзеўцы? Хай бы паглядзела на мяне не як на „вапняка"! Гляну ў люстэрка — пазірае ж на мяне добра захаваны блакітнавокі бландзін з роўнымі, белымі як снег зубамі, з беззаганнымі профілем і паставай (калі пастараюся і добра разагнуся). Да таго ж я недурны. Але прычым тут кніжныя навукі!..

— У вас, міленькая, вочы як два азёры... — пачынаю, звяртаючыся да найбліжэйшай паненкі.

— Ой, як міла ад вас гэта ўрэшце пачуць! — хіба ж ці не цешыцца Марына. — Шкада, што вы сёння толькі трэці, хто мне такое кажа.

Дзяўчына глядзіць цераз свае акуляры ў мае шкельцы, а я сціпла апускаю вочы на яе дэкальтэ, аднолькава адважнае як зверху, так і знізу.

— Вы такая прыгожая, але непадобная, — прымяняю цяпер прыём пачуты калісьці ў Гарадку.

— Гэта мой прынцып, — Марыніны акуляры ўжо бліжэй маіх.

— Калі так, давайце выйдзем разам з вамі паглядзець начное жыццё Беластока, — прапаную. — Пешшу. У мяне ёсць цікавыя запісы Забэйды-Суміцкага.

— То ідзём. Інтрыгуе мяне начное жыццё, — Марына падымае з фатэля сваю круглую попку ў скураной мініспадніцы і ідзе ўзяць плашч.

Але не далі нам, гады, заняцца больш цікавым, чым трыццатыя гады ў Беларусі. Як тыгр у пярэднюю кінуўся сябар Ю., і заставіўшы сваім набітым магутным целам выхадныя дзверы, сцягнуў з дзяўчыны плашчык. А мне сказаў, гледзячы з насцярогай і злосцю:

— Спадар Вандал Янавіч, не ламайце прынцыпаў нашага сходу.

Цікава, якія прынцыпы меў на ўвазе калега Ю., бо праз хвілін з дваццаць сам звёў Марыну ў начны горад. А мне прыйшлося ў не менш мілай кампаніі далей снаваць свае разважанні пра беларусізацыю.

**Вандал Арлянскі**

## РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXXVII**

Набліжаюся да канца бацькавых прызнанняў і ацэнак, якія адносіліся да адлеглага мінулага і пасляваеннай рэчаіснасці. Зразумела, што ў бацькавых выказваннях няма акрэсленай строгай сістэмы, што ў іх нямала частых вяртанняў да ўжо закранутых праблем. Аднак я супрацўляюся б, калі б хто сказаў, што інфармацыі майго бацькі, гэта бессістэмны хаос. Можна сказаць, што яны маюць рэфлексіўны характар, а рэфлексія, як правіла, заключае ў сабе пэўную дозу стыхійнасці.

Апошнія фрагменты выказванняў бацькі адносяцца, галоўным чынам, да 1965—1970 гадоў. Матывам, які ў іх паяўляўся найчасцей, была боязь, выкліканая нарастаннем з'яў алкагалізму ў беларускіх вёсках і дрэннымі адносінамі дзяцей да старых бацькоў.

„Яшчэ табе скажу адно. Тут я слухаю часто радзіва з Масквы або Мінска, але толькі ў нядзелю, бо так у тыдні то німа часу на ніякі радзіва. Ну то яны там усё трубят аб тым, што для нас вельмі апасны амерыканскі імперыялізм і што гэты імперыялізм то хоча нас заваяваці і зрабіці з нас нявольнікоў. Ну, а я ў усё гэто то вогуле ні веру. Бо нашто тым амерыканцам Бандары чы нават і цэла Польшча, чы Беларусь. Тыя ж амерыканцы то мают пад бокам намного багатшы страны чым якаясь там Беларусь. То калі схочут заваяваці чужыя народы, то заваюют тые, што блізко іх, а ні будут лезці тысячы вёрст. Яны ўжэ залезлі ў В'етнам і мают яго досыць. А вогуле то мне здаецца, што калі нас хто заваюе, то ні амерыканскі імперыялізм, але водка. Для нас імперыялізм то водка. Ты паглядзі, колькі добрых людзей змарнавалаcё. Здароўе патрацілі, маладымі памерлі, прыдурэлі. Буянят, б'юцца, лежат на дарогах, на марозі, пад дажджом. От гэто наш імперыялізм, ад катораго німа ніякаго спасу. Ну то якая гэта наша родзіна? Палучаецца, што няма родзіны.

Ну ты знаеш, што я, як кажды стары чалавек, параўноўваю тое, што было калісь з тым, што ест цяпер. Ну і як ты ні параўноўвуй, то палучаецца, што сягодня людзі лепш жывут, чым жылі калісь. Найважнейшэ, то электрыка. Ты паглядзі, якая яснота стала ў хатах. То ж асвятлялі калісь хаты капцілкамі, а нават драніцамі чы лучыною. О гэто то было горэ! А гэта ж электрыка то ні толькі святло, але млінкі і радзіва, і грайзэгі, і маразілкі. Гэто ж вялікє дзело, каторэ нікому нават і не снілаcё.

Ну, але жывем мы далей бедно. Ты ж падумай, мне ўжэ восемдзесят тры рокі і старой (маёй маці — А.Б.) толькі само. А чаго мы дарабілісе? Мы назбіралі за цэлэ жыце пяць тысяч злотых, а на памятнік трэба дзесяці тысяч. Ну, от бачыш, як пампрэм то мусіш далажыці да памятніка сваіх пяць тысяч злотых. Ну але ўсё ж такі хватае нам і на абуве, і на адзежу, і на цукер, і нават на купны хлеб або булачкі. А яшчэ гаворат, што мают даць нам мэрытуру. Калі б так сталасё, то было б гэто вялікє для нас старых дзело, бо то тады старые мелі б свае грошы і маладые дзеці ні маглі б іх крыўдзіці і абіжаці. Ну то калі б нам далі гэты мэрытуры, то тады старые былі б панамі. Ты знаеш, што гэто было б, калі б так каждаму старому лістонош кажды месяц прыносіў грошы? Гэто ж было б велікє дзело, калі б так сталасё. То тады маладыя дзеці дбалі б пра старых, каб жылі як найдаўжэй, бо вядомо, калі яны мают мэрытуры, то штось там з тых мэрытуроў пападало б і маладым дзецям. Так, што дзеці ўжэ ні будут ждаць, каб старые як найхутчэй здыхалі, але каб жылі як найдаўжэй на свеці. Ну, але з гэтымі мэрытурамі то могут быці разны фокусы. Ты ж знаеш Яська Баршчэўскага з Рыбакоў. Ну то гэты Яська палучае ужэ вельмі вяліку мэрытуру. А за што? А за тое, што ён служыў у Краснуй Арміі. Ну то ён мае, а я ні маю, хоць праслужыў тры рокі, быў на фронці і пяць лет ахраняў жалезны дарогі пры Саветах. Ну то значыт, Яська добры, бо ганяўся за Патлюраю, а я кепскі, бо ваяваў з немцамі і ахраняў дарогі. А ты знаеш, што ў нас на жэлезнуй дорозі ад бандзітоў і спекулянтоў гінуло больш чым на фронці. А зрэштаю, ні толькі я тут пакрыўджаны. І Яначко ваяваў, і Сцяпан ваяваў, і быў ранены, і Ёзыб Казбярук ваяваў і ўсе мы маем фігу, а Яська пару тысяч у месяц. От табе і справядлівасць! Яська, значыцца, рэвалюцыянер, а мы не рэвалюцыянеры. А мы ж усе адзінакавы. Сілаю загналі нас у армію і па восем лет мучылі! От і ўсё. Так што сам бачыш, што нібы тае справядлівасці, катора так патрэбна людзям цяпер больш, чым было да вайны, але ні можно сказаці, што гэто ест то поўна справядлівасць. Да поўнае справедлівасці то яшчэ далеко. Ну, але відно, поўнае справядлівасці то нідзе німа на свеці, ні толькі ў нашуй родзіні."

**Алесь Барскі**

## „Не шукай дому прасторнага..."

У вёсцы старажылы часта паўтараюць: „Не шукай поля ўрадлівага, толькі суседа зычлівага". Можна сказаць яшчэ і так: „Не шукай дому прасторнага, толькі суседа добрага".

Аб гэтым пераканаліся Крыся і Марко. Дзесяць гадоў жылі ў нанятай цеснай кватэры. Усё думалі, што атрымаюць кватэру ў блёку. Калі прыйшла іх чарга, аказалася, што трэба адразу заплаціць больш чым дзвесце мільёнаў, і маладым апалі рукі. Столькі грошай не мелі.

Пачалі Крыся з Марком разглядацца за большай кватэрай. Маркаў сябар Мар'ян жыў у двухпавярховым доме на першым паверсе з сям'ёй. На другім паверсе раней жыла ўдаваўласніца вілы, а дзеці яе пераехалі ў Варшаву. Удава пазнаёмілася была са старым кавалерам, пайшла за яго замуж і пераехала ў іншы горад, а Мар'яна папрасіла наглядаць за домам. Вілы прадаваць не хацела, меркавала аддаць яе ўнуку, калі вырасце.

Мар'ян мог прымаць кватарантаў, абы толькі спакойных і акуратных людзей; гаспадыня за грашыма будзе прыязджаць раз у год. Кватэра спадабалася Крысі і Марку. Праз тыдзень прыехала пані Бася і ўзяла ад іх грошы за год.

Мар'ян з сям'ёй два тыдні прыходзіў на абед да сяброў. Браў ад іх вугаль і дровы. Калі ўваходзіў у кватэру, ад парога кідаў: „Давай, Крыська, штосьці выпіць і закусіць! Дзякуючы мне маеце такую файную кватэру, а мог кагосьці іншага ўзяць! Я тут за гаспадара і стражніка!" Калі на трэці тыдзень Крыся адмовілася даваць абед, пачаліся сваркі. Праходу не было. Мар'ян сваім дзецям загадаў насіць пясок пад дзверы кватарантаў. Калі хтосьці з іхняй радні іх наведаў, Мар'ян адразу паведамляў паліцыю, што на другім паверсе адбываюцца пастаянныя п'янкі і скандалы, і жыць немагчыма з такімі кватарантамі-алкаголікамі. Тры разы падаў іх у суд. Раз нават выйграў, падставіўшы фальшывых сведкаў — абвінаваціў Крысю, што зняважыла ягоную жонку брыдкімі словамі.

За год Крыся з Маркам заплацілі гаспадыні, і нікуды не будуць перасяляцца — пані Бася грошай не можа вярнуць.

— Каб мы ведалі, што так будзе, то далей жылі б у цеснаце, але не ў крыўдзе! — уздыхаюць Крыся з Марком.

**Аўрора**

## Варта ведаць, што...

... у 1996 годзе Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) будзе святкаваць 40-годдзе свайго існавання. Культурнае жыццё беларусаў у Польшчы праявілася тады перш-наперш у развіцці самадзейнага мастацкага руху. Арганізатарамі мастацкіх гурткоў былі людзі, якія любілі беларускую песню, музыку. Яны імкнуліся ў жыццё вёскі ці мястэчка ўнесці нешта новае і незвычайнае. Такімі людзьмі, якія гарнуліся да гэтай справы былі: Ніна Мушынская з Гарадка, Збігнеў Батулінскі з Рагачоў, Вольга Алекша з Новай Волі, Віктар Вашкевіч з Белавежы, Агіевіч з Орлі і іншыя.

Адным з першых узнік мастацкі гурток у Гарадку. Усё пачалося з чытання ўголас твораў беларускіх і савецкіх пісьменнікаў у бібліятэчным пункце ў мястэчку. На вечарыны збіралася многа людзей. Нехта з прысутных запрапанаваў стварыць хор. Гэтую ініцыятыву падтрымалі жанчыны. Пачалі рэпетыцыі. Першае выступленне хору адбылося ў родным мястэчку і ўсім вельмі спадабалася. У рэпертуар хору ўваходзілі беларускія, рускія і польскія песні, а таксама частушкі складзеныя Нінай Мушынскай. Як вядома, хор у Гарадку існуе дагэтуль і цешыцца вялікім поспехам.

Падобна пачыналі працу іншыя самадзейныя калектывы, многія з іх паўсталі на базе існуючых царкоўных хораў, напрыклад хор у Крынках, у Белавежы, у Кленіках.

Мастацкія калектывы мелі вялікія цяжкасці на самым старце: не хапала існтруктараў, народных убораў, не было інструментаў. Усё ж паўсталі не толькі харавыя гурткі, але драматычныя, танцавальныя і інструментальныя. Напрыклад, танцавальны гурток у Шымках ды драматычныя ў Новай Волі і Рагачах, а таксама калектыў песні і танца ў Бельску-Падляшскім. У 1956 годзе арганізавалі калектыў песні і танца пры Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку. Першым яго кіраўніком была Людміла Панько.

У 1957 годзе існавалі 24 калектывы мастацкай самадзейнасці, у тым ліку шэсць харавых, дзесяць драматычных, тры танцавальныя, два інструментальныя і іншыя. У 1958 годзе наглядаецца павелічэнне колькасці мастацкіх калектываў — у канцы вышэйзгаданага года было іх 40. У маі 1959 года налічвалася аж 70 гурткоў мастацкай самадзейнасці.

У 1960 годзе існавалі 72 самадзейныя драматычныя, харавыя, танцавальныя і інструментальныя калектывы. 27 з іх знаходзіліся ў Гайнаўскім павеце, 20 — у Бельскім, 13 — у Беластоцкім ды па 6 — у Сакольскім і ў Сямяціцкім паветах.

27 лістапада 1960 года адбыўся цэнтральны агляд мастацкай самадзейнасці ў Беластоку з удзелам 5 гурткоў: з Гарадка, Лешукоў, Кляшчэляў, Пянькоў і са Шчытоў. Першае месца ў агладзе заняў гурток са Шчытоў.

Высокага мастацкага ўзроўню дабіўся драмгурток з вёскі Пянькі (Беластоцкі павет), якім кіравалі Надзея і Янка Азябла. Ставіў ён п'есы „Прымакі" і „Паўлінка" Я. Купалы, „Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча ды „Суд" У. Галубка. З пастаноўкамі пянькоўскія акцёры ездзілі ў суседнія вёскі.

Вялікіх поспехаў у працы дабіўся мастацкі калектыў з Кляшчэляў (Гайнаўскі павет). Ён выступіў у 1960 годзе на цэнтральных дажынках у Варшаве.

13 лістапада 1960 года дала свой першы канцэрт новазаснаваная эстрадная група пры ГП БГКТ — „Лявоніха". У праграме яе выступленняў былі песні, музыка, танцы і жартоўныя сцэнкі.

**(яц)**

## З народных песень

*(працяг; пачатак у 47 і 48 н-рах)*
*Песні з ваколіц Полацка, Лепеля, Глыбокага і Празарок.*

У мяне міленькі адзін,
Будзе добры гаспадзін.
А я ў яго адна.
Будзе добрая сям'я.

Вы, багаты беларусы,
Усё аддайце ў налог.
Хлеб пячыце із мякіны.
Ён салодкі як пірог.

Дзевачкі, красоткі,
Спаднічкі кароткі.
Як жа вам не стыдна,
Панталоны відна.

Я сапернікаў любіла,
Адзін добры, другі чорт.
Добры цалаваў да рання,
З чортам еду на курорт.

У саду, ці ў агародзе
Вырасла пятрушка.
Мальцы дзевачку цалуюць,
Думаюць — ігрушка.

Цераз рэчку быструю
Я масточак выстраю.
Хадзі мілы, хадзі мой,
Хадзі летам і зімой.

Ах ты Ліза, Лізавета,
Я люблю цябе за гэта.
І за гэта, і за то,
Што пашыла мне пальто.

А ў калхозе добра жыць,
Адзін робіць, сем ляжыць.
А як сонца прыпячэць,
То і сёмы ўцячэць.

Балалаечка звініць,
Пайду мілага будзіць.
Разбуджу, не разбуджу,
Хоць на яго пагляджу.

А чаму ж ты не прыйшоў,
Як я цябе клікала.
Усю ночку на палочку
Як цялушка брыкала.

За мной трое, за мной трое,
За мной трое, як адзін.
Прадсядацель сельсавета,
Счотавод і брыгадзір.

*(заканчэнне будзе)*

**брат Баніслаў Кавэцкі**

U mia - nie mi - leń-ki a-dzin Bu-dzie dob-ry has-pa-dzin
I ja u ja - ho ad - na Bu- dzie dob-ra - ja sem-ja

## Адурманены перыяд

Актуальна жывем у надта цікавым перыядзе часу. Вакол, дзе не глянь, чуецца подых варожасці і нянавісці, учыняюцца грабяжы, забойствы, гвалты. Адкажыце, калі ласка, хто кампетэнтны ў гэтым і ці гэта згодна з дэмакратыяй?

У нашым беларускім асяроддзі таксама завялася падобная паршывая звычка. Не ведаю спадара галоўнага рэдактара „Нівы", ні спадара Багдана Сіманенку. Ведаю толькі тое, што яны грызуцца як сабакі. Ну што ж, даражэнькія, мода такая!

Паважаныя спадары, нас чытачоў не цікавяць вашыя грызні. Нас цікавіць згода, лад і парадак, добрыя адносіны паміж БГКТ, „Нівай", Звязам беларускай моладзі, „Часопісам" і іншымі. Падзелы на самых добрых малодых і нядобрых, заражаных камунай старых хай адыдуць у нябыт. Пачніце будаваць супольную будучыню. Дабро будуе, зло руйнуе — гаворыць народная прыказка.

**Валянцін Семянюк,**
**Райкі**



## Ліст да дачкі

Прыедзь хутчэй, дачушка, так чакаю,
Бо тут ляжу, я хворая такая.
Баліць мне сэрца, жаль сціскае,
А ты далёка, як у далёкім краі.
Ці цябе там хто так сілаю трымае,
Ці на дарогу грошай мо не маеш?
У пакуце цяжкай ціха тут чакаю,
А як адчыніш дзверы — ажываю.
Прышлі хутчэй мне доню, добры Божа,
Бо ўжо ніхто з людзей мне не паможа...
Мне цяжка... Можа, ужо ўміраю?..
Даруй за ўсё, калі не так... Кахаю.

**Іда Кавалевіч**

## Мая хатка

Асталася я адна як былінка ў полі,
Але Бацька Бог спачувае маёй цяжкай долі.
Сёння я ад чужых людзей добрую апеку маю,
Маю што есці, піць, у палацах бываю.
Але так шкада мне той сіроткі-хаткі,
Быццам роднай мамы, як роднага таткі.
Чужым ненавідная — краявід марнуе,
Але якась ніхто яе шчэ не руйнуе.
А чакае старушка, каб папесціць, пагладзіць
Яе добрыя сцены, прымазаць, прыладзіць...
Зноў да хаткі прыехаў бы госцем Міколка,
І чакалі б размовы кніжак поўныя полкі.
Гаварыў бы са мною пра жыццё і святое...
І мы дзве ў адзіноце з хаткай марым пра тое.

**Мар'я Пень**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, нейкі дзіўны сон мне прысніўся. Баюся, што нешта нядобрае мяне чакае. Быццам вяртаюся я з панадворка дахаты. Уваходжу ў пакой, і што бачу. Уся падлога засланая пасцеллю, быццам падрыхтаванай для спання. Пасцель і каляровая, і белая. Раскладзены ўжо і тапчан. Падумала я, што гэта зрабіла мужава сваячка, якая жыве на вёсцы і прыехала да нас. У нас нікога дома не было, а яна захацела адпачыць і разаслала тую пасцель. Сама легла на тапчане. Я была задаволена, што яна так зрабіла, значыцца, адчувае сябе ў маёй кватэры, як у сябе дома. Легла яна галавой у напрамку дзвярэй. Я падыходжу і бачу, што гэта не яна, а яе сястра, якая ўжо пару гадоў не жыве. Я прысела і прывіталася з ёю, пацалаваўшы яе ў твар. І то ўсё. Я прачнулася.

А майму мужу прыснілася во такое! Ён са мною ў пограбе і нейкія людзі там. Пограб развальваецца. Яго падпіраюць, ратуюць. А я пайшла туды, хаця муж крычаў, каб я вярнулася назад. Я не паслухала, палезла. У той момант пограб развaліўся і мяне засыпала цэглай і тынкам, толькі рукі ўверсе тырчэлі. Муж і ўсе прысутныя кінуліся ратаваць мяне. Як гэта скончылася, муж не памятае. Са страху прачнуўся.

**Ніна**

Ніна! Не буду граха таіць: сны нядобрыя. Твой сон папярэджвае цябе наконт нейкай хваробы. Аб гэтым сведчыла б тая раскладзеная ў тваёй хаце пасцель, ды і сваячка, якая аказалася не сястрой-нябожчыцай.

Баюся, што гэта хвароба можа датычыцца цябе, бо ж і мужу твайму прыснілася, што ты была ў падзямеллі і цябе засыпала там тынкам і цэглай. Нейкая бяда падсцерагае цябе. Сцеражы сваё здароўе.

**Астрон**

# СВЯТОЧНЫ КАСЯК

**Направа:** 1. раптоўнае зніжэнне крывянога ціску, 2. міфічны конь з чалавечай галавою. 4. якуцкі паэт (1917—79), 6. у сшытку або ў дзённіку, 7. біскуп Рыма, 8. праверка, 10. муж Сары, 13. горы з Мармаладай, 14. Нёман у Каўнасе, 16. старажытнагрэчаскі пісьменнік-мараліст, 17. сталіца Эквадара, 19. арганізацыя з блакітным сцягам, 20. паўднёвае пладовае дрэва.

**Налева:** 1. від папугая, 3. горад на Палессі, 5. анафема, 6. элемент аркады, 7. антонім хлусні, 9. опера Вердзі, 11. перпендыкулярная мерыдыяну, 12. ганчарная вытворчасць, 15. сістэма праваднікоў у электрамашыне, 16. напр. Венера, 18. кандытарскі выраб, 19. назойлівае насякомае, 21. разнавіднасць „Лады".

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на віраванку з 46 н-ра: Каўказ, каўнер, насціл, цягнік, Казбек, Феліні, Нікшыч, Венера, Енісей, снарад, Рэчыца.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## Снежань у гаспадарцы

Паклапаціцца пра затрымку снегападаў, між іншым шляхам згортвання снегу ў бязладныя купіны на палетках з азімінай.

Вывозіць гной і кампост на поле, укладаць у вялікія кучы, каб вясною выкарыстаць пад прапашныя і бульбу. Забяспечыць копцы з агароднінай і бульбай ад марозу. Адкармліваць свіней і бычкоў. Дбаць аб цяплыні ў куратніках. Даглядаць жывёлу.

Чытаць сельскагаспадарчую літаратуру. Абмяркоўваць, як гаспадарылі на працягу ўсяго года. Распланаваць сельскагаспадарчыя культуры на паасобныя палеткі ў наступным годзе. Зрабіць план гаспадарання на 1996 год.

## Цікава ведаць, што...

... узімку ў супольныя чародкі аб'ядноўваюцца некаторыя гатункі птушак, напрыклад розныя гатункі сініц, попаўзняў і пішчухаў, а нават дзятлаў.

... бывае і так, што два сваяцкія (блізкія) гатункі ніколі не выступаюць разам у тым самым біяцэнозе — напрыклад, яшчарка порсткая з яшчаркай жывароднай. Гэтак жа бывае ў выпадку аленя і лося, ляснога ката і рысі.

Не могуць сцярпець сябе ў блізкай адлегласці белы і чорны буслы. Гоняць адзін аднаго са сваёй паляўнічай тэрыторыі. Чорныя буслы робяць гнёзды найчасцей на раскідзістых дубах у мала даступных пушчанскіх закутках.

**(яц)**

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне*

## БЕДНЫ БУДЗЕ ВАШ АБУХ!

**Паважаны Спадар Галоўны Рэдактар Тыднёвіка „Ніва"**

Я, як Лёлік Назарэз, не намераваюся весці ніякае палемікі з якімсьці тупым Абухам. Яго ўрэдныя намёкі на маю асобу, ды такія словы як „кастрацыя" ў супастаўленні з маім прозвішчам — закранаюць не толькі мой гонар, але шкодна ўплываюць на ўзгадаванне маладога пакалення свядомых беларусаў. Не жадаю я сабе, каб хтосьці ад гэтае пары называў мяне Недарэзам, бо гэта ніякага дачынення да фактаў, да святое праўды, не мае.

Што Вы церпіце ў сябе такога „яйцарэза" Сцёпу, магу вытлумачыць сабе толькі Вашым бязмежным гультайствам. Вам, відаць, не хочацца чытаць тэксты, якія друкуюцца ў Вашай усё больш і больш паклёпніцкай бульварцы.

Калі Вы мяне на першай старонцы не перапросіце, бедныя будзеце і Вы, і гэты Ваш Абух. Скажыце яму, што ён будзе марыць пра кастрацыю, калі біцуць яму яго бязвартасныя яйцы рваць абцугамі. А Вам наплюю на столік.

Застаюся з павагай да Вашае асобы

**Лёлік Назарэз**

**Ад рэдактара:**

Паважаны Спадар Лёля Назарэз!

Заклапочанасць пра бяспеку нашага супрацоўніка Сцяпана Абуха, які абамлеў толькі пасля прачытання Вашага допісу, прымушае мяне перапрасіць нават Вас. А столік на ўсялякі выпадак мы прыкрылі старымі газетамі.

## СЕНТЭНЦЫЇ

Шукай той зоркі,
да якой можна даткнуцца.

* * *

Толькі Энтузіяст у сне
мог даць жыццё чалавеку.

* * *

Трыумвірат цуду:
веды, настойлівасць і грошы.

* * *

Калі жывеш — жыві,
бо па той бок таксама каменяломні.

**Барыс Руско**

# НІЎКА

Мал. А. Папова

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

На шпацыры:

— Ох, каханы, — гаворыць яна, — не магу выказаць пачуцця, якое хвалюе маё нутро.

— Са мною дзеецца тое сама; не павінны мы былі тых сліў папіваць півам.

* * *

— Ці здарылася табе калі, каб муж прылапаў цябе ў ложку з чужым мужчынам?

— Ніколі, заўсёды былі гэта яго знаёмыя.

* * *

Тры месяцы пасля вяселля Новаку нарадзілася дзіця. Сябры на працы насміхаюцца, што гэта не яго. Вярнуўшыся дадому дапытвае жонку.

— Тупіца ты, — дакарае жонка, — палічы добра! Тры месяцы я ўжо тваёю жонкаю, тры месяцы ты маім мужам і тры месяцы мы ўжо сужонствам. То палічы сабе, ці разам не выходзіць дзевяць месяцаў.

* * *

— Чаму ўчора наш сусед так страшэнна крычаў на сваю жонку?

— Бо не хацела сказаць, на што выдала ўсе грошы.

— А сёння чаму ўжо не крычыць?

— Бо ўжо сказала.

* * *

Размаўляюць два сябры:

— Учора купіў дачцы скрыпку з надзеяй, што пераканае яе гэта да музыкі. Нічога аднак з гэтага не атрымалася.

— Падобна было і ў мяне, калі купіў цешчы чамадан.

# Дажартаваўся...

Не паспеў я сесці за стол, як зазваніў тэлефон.

— Слухаю Вас, — бяру трубку.

— З Новым годам.

— Дзякую! І вас таксама.

— Гэта хто? — захрыпела ў трубцы.

— Астраносік, — адказваю спалохана.

— Вельмі прыемна. Імення вы нам зараз патрэбны, дарагі дружа. Вас турбуе дырэктар „Панарамы" Сакольнік. Я вам званю з аддзела размеркавання матэрыяльных даброт. Вам чаго не хапае да навагодняга стала?

А голас, як быццам знаёмы. Хаця і гучыць так, нібы з бочкі з-пад іва- сі.

— Вельмі рады! Я вас слухаю, — закашляўся ад хвалявання. Месца сабе не знаходжу. Сэрца ледзьве з грудзей не выскачыць. Сапраўдны навагодні сюрпрыз. Такое і ў сне не снілася. Каб мне, простаму смяротнаму грамадзяніну, сам дырэктар „Панарамы" ні з таго, ні з сяго званіў... Ажно ў горле перасохла, нібы ў пустыні. А самога мучаюць думкі. Можа крэдыт не даплаціў?.. Але Сакольнік развеяў усе мае сумненні.

— Прабачце, — кажа, — што пад Новы год вас турбую, але так ужо атрымалася. Вы былі ўчора ў нашым універмагу?

— Не!

— А пазаўчора?

— Быў!

— Цудоўна! — крычыць у трубку. — Дазвольце вас павіншаваць. Вы знайчаны лепшым пакупніком 1995 года.

— Не можа быць?

— Акурат так. У чарзе вы стаіце апошнім. Вам заўсёды тавару не хапае. Але вас гэта не турбуе. Кнігу скаргаў не патрабуеце. Прадаўцам не грубіяніце. Калі яны вас лаюць — маўчыце.

— І аблічваюць, — дадаю.

— Вось бачыце! Значыць, так. Калектыў нашага магазіна вырашыў адзначыць вашы паводзіны каштоўным падарункам. І грошы вазьміце з сабой. Створым усе ўмовы, купіце ўсё, што вам трэба. І жонку не забудзьце. Сустрэнем з кветкамі, — сказаў і паклаў трубку — хтосьці знаёмы, а хто — не магу зразумець.

Але ўсё ж пайшоў да свайго начальніка.

— Адпусці, — прашу, — у паліклініку. Трэба аналізы здаць.

— Якія? — вытарашчыў вочы на мяне Зязюлькін.

— На цукар, — адказаю.

— Трэба менш „чай ганяць", а больш працаваць. Ідзіце, — махнуў рукой, а сам падазрона свой твар хавае, ледзь не пад стол лезе.

Але мне ўжо было не да яго. Тэрмінова зняў у ашчадным банку грошы. Злавіў таксі. Узяў жонку — і ў універмаг. Адразу ж да дырэктара.

— Заняты, — кінула сакратарка. — Аж у гарадскім торзе. Прэмію атрымоўвае.

— Ён мне толькі што тэлефанаваў.

— Так бы і сказалі, — весела ўсміхнулася, нібы веснавое сонейка. — Вас абслужыць яго намеснік Гаўрыла Васільевіч. Ідзіце да яго.

Прыйшоў.

— Я ад Сакольніка, — кажу.

Той моўчкі ўстаў з-за стала. Расправіў плечы. Павёў у падвал.

Адным словам, атавары́ліся добра, нібыта за кардонам пабывалі. Напхалі машыну, як кажуць па самую завязку. Сядзім дома, пакупкі прымяраем.

Раптам Пракапенка (саслужывец) на парог. Залівацца смехам, як цыган.

— Ну, як мы цябе разыгралі перад Новым годам, — смяецца, а ў самога рот расцягнуты аж да вушэй. Вочы іграюць.

— Ва універмаг, — перакрывіў. — Сакольнік. А ты — аналізы. Адпусціце... З цябе ўся наша кантора смяецца.

— Чаго?

— Як гэта чаго?

— Сакольнік табе ўранні званіў?

— Званіў.

— Гэта быў не ён, а я.

— Мне якая справа, — кажу. — Адпрасіўся і пайшоў.

— Куды?

— Ва універмаг. Вунь паглядзі на пакупкі. Сакольнік сваё слова стрымаў.

— Але ж я пажартаваў... Перад Новым годам.

— Нічога не ведаю. Абслужылі па першаму разраду.

Пракапенка глянуў і... машына хуткай дапамогі забрала яго проста з маёй кватэры. Дажартаваўся.

**Віктар Семяняка**

*З украінскай пераклаў Валерый Бабей*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Скажы мне, калі ласка, як гэта ў жыцці бывае, а як павінна быць? Мама мяне заўсёды вучыла, што дзяўчына павінна паводзіць сябе скромна. Скромнасць яе ўпрыгожвае, паўтарала. А я, калі гляну навокал, дык скромныя дзяўчаты сёння праігрываюць.

Сёння дык адно перад другім, абы быць наверсе. Гэты „капіталізм" мне ўжо бокам вылазіць. Спакойнага чалавека затопчуць, адбяруць у яго ахвоту да жыцця.

Я ўжо працую. Пасля сярэдняй школы не пайшла вучыцца далей, бо трэба было дапамагаць маме, якая адна выхоўвала нас з сястрою. Сястра малодшая за мяне на пяць гадоў. Калі памёр бацька, ёй яшчэ не было дзесяці гадоў. Мама не выйшла больш замуж, хаця былі аматары, ды не багатыя. Усё лічыла, што бацькі нам не знойдзе. А мо проста пасля бацькі не магла нікога пакахаць.

Усё, што зарабляю, аддаю маме, каб неяк маглі мы пражыць. Адкуль жа мне браць столькі грошай на дробныя выдаткі, як маюць некаторыя мае сяброўкі?! А маюць, ой маюць! Шастаюць грашыма без патрэбы, быццам нейкія прынцэсы. А найбольш — тыя, у якіх бацькі прыватным гандлем займаюцца. Мне, калі гляну на гэта, аж млосна робіцца. Але не ў гэтым справа, а ў чымсьці іншым.

У мяне ёсць даволі блізкая сяброўка яшчэ са школы, у якой бацькі цяпер надта разбагацелі, а галоўным чынам дзякуючы гандлю з людзьмі з-за ўсходняй мяжы. Яна цяпер не працуе і не вучыцца, бо і навошта гэта ёй! Мы часта з ёю кудысьці ходзім, бываем у розных кампаніях.

Ну, і што, думаеш, яна мне хоць раз каву паставіла? Не, гэта не па-сёйнаму. Ідзем у кавярню, але плаціць кожная з нас сама за сябе. Я не кажу, што яна павінна гэта рабіць, бо што яна мне вінавата? Але каб хаця кінулася адзін раз, што яна заплаціць, бо яна мяне на гэту каву запрасіла... Бадай жа так выпадала б! Сяброўка!

Але калі мы бываем у нейкай кампаніі, і там паяўляецца цікавы хлопец, мая сяброўка вылазіць са скуры. Раздае грошы дзяўчатам, каб беглі ў краму па віно і закуску, а потым паводзіць сябе ў кожнай кампаніі, як гаспадыня, падае, налівае, палошча шклянкі. Хто яе не ведае, дык можа падумаць, што гэта страшна працавітая і добрая дзяўчына, зычлівая ўсім і ўсюды.

Я адчуваю сябе ў такіх выпадках вельмі няёмка. Па-першае, у мяне няма такіх грошай, каб даваць на нейкія складчыны, па-другое, не ўмею я быць гаспадыняй у чужой хаце. А, зрэшты, не ўмею я канцэнтравацца такім чынам на сабе ўвагу. І не буду я нікога купляць, нават калі б тыя грошы і былі. Мне ўсё ж здаецца, што тут мая мама мела рацыю.

Але ж і сядзець у кутку нецікава. Прынамсі на той час, калі працягваецца імпрэза, мая сяброўка ў цэнтры ўвагі. Усе ёй падтакваюць, глядзяць на яе, хваляць за гаспадарнасць. А, праўду кажучы, цешацца, што могуць напіцца дармовага.

Аднойчы я сказала гэтай сяброўцы пра мае спасцярогі, а яна абразілася на мяне. Больш таго, сказала, што я гэта раблю ад зайздрасці, а не таму, што я ёй такая добразычлівая.

А я ж кажу, што каб яна хаця хлопца сабе злавіла на гэтых імпрэзах, а то не. Усе пап'юць ды паразыходзяцца. І так да наступнага разу.

Сэрцайка, ці можна разлічваць на тое, што ўсё ж у такой кампаніі можна знайсці сабе мужа?

**Анеля**

Анеля! Мужа дзяўчаты найчасцей знаходзяць у кампаніі, але хутчэй за ўсё не ў такой. Не ў гарэлцы сэнс кахання. Іншая справа, што пасля такіх „імпрэз" нярэдка нараджаюцца няшлюбныя дзеці, а застаецца на пацеху толькі ўспамін пра бацьку дзіцяці.

Няўжо ў вас няма іншых зацікаўленняў, апрача кавярняў ды выпівак?! Ёсць столькі цудоўных спраў, якія могуць зацікавіць маладога чалавека, а грошай не патрэбна пры гэтым шмат.

Вясёлага Новага Года!

**Сэрцайка**